• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

8 жніўня 1996 г. чацвер, № 198 (23001)




# ЗВЯЗДА

## ПЯЦІДЗЁНКА Ў ШКОЛЕ — АМАЛЬ ШТО РЭАЛЬНАСЦЬ

Новы навучальны год абяцае быць не вельмі стамляльным для школьнікаў. Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, у Галоўным упраўленні агульнай сярэдняй адукацыі пры Міністэрстве адукацыі і навукі рэспублікі падрыхтаваны праект загаду аб пераходзе на пяцідзённы рабочы навучальны тыдзень. Зрэшты, дазвольны прынцып, які закладзены ў гэтым дакуменце, дасць магчымасць адпачываць у суботу не ўсім школьнікам рэспублікі. Як эксперымент абласным упраўленням адукацыі рэкамендавана выбраць раён і школы, дзе пераход на пяцідзёнку не парушыць навучальнага працэсу. Пры гэтым у эксперыментальных навучальных установах субота будзе выхадным днём пакуль што ў верасні і кастрычніку, а таксама ў красавіку і маі. А навучальны год ва ўсіх класах, акрамя дзявятага і адзінаццатага, навялічыцца на семнаццаць дзён і працягнецца да паловы чэрвеня.

Адразу дазволіць усім абласным упраўленням адукацыі аб'явіць два выхадныя дні на тыдзень міністэрства пакуль што не можа. Начальнік Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Мікалай Фяськоў растлумачыў гэта тым, што за час, які застаўся да 1 верасня, немагчыма змяніць усе навучальныя планы, пераглядзець нагрузку вучняў і настаўнікаў, што, у сваю чаргу, выклікае і змяненне аплаты працы педагагічнага калектыву школы. Усе гэтыя пытанні можна вырашыць і ўзгадніць канчаткова толькі тады, растлумачыў Мікалай Сцяпанавіч, калі рэформа сярэдняй адукацыі пачне дзейнічаць на поўную сілу.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## У ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ САМАЯ ВЫСОКАЯ ЎРАДЖАЙНАСЦЬ

Як ужо паведамлялася, сярэдні паказчык ураджайнасці па рэспубліцы складае 24,5 цэнтнера з гектара. Сярод абласцей пакуль лідзіруе Гродзенская — 27,6 цэнтнера з гектара. А ў Гродзенскім раёне ўраджайнасць складае 32,5 цэнтнера з гектара. Наогул, паўночныя рэгіёны толькі пачалі жніво: на Гродзеншчыне сабралі збожжа з 67,7 тысячы гектараў, што складае 16,7 працэнта ад пасеянага, і намалацілі 174,4 тысячы тон. А гаспадаркі Віцебскай вобласці пакуль апрацавалі толькі 35,7 тысячы гектараў (7,3 працэнта ад пасеянага), намалаціўшы 72,2 тысячы тон.

Сярод раёнаў, дзе зафіксавана найбольш высокая ўраджайнасць, можна адзначыць Берасцевіцкі — 32,6, Нясвіжскі — 32,1, Стоўбцінскі і Драгічынскі — 30,4 цэнтнера з гектара, а таксама Клецкі — 30,6 і Карэліцкі — каля 30 ц/га.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**



Фота Васіля ЗЯНЬКО (г. Стоўбцы).

## ПРЭЗІДЭНТ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ГАТОЎ СУСТРЭЦЦА З УСІМІ, ДЛЯ КАГО ПА-САПРАЎДНАМУ ДАРАГІ ЛЁС БЕЛАРУСІ

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка 7 жніўня ў сваёй рэзідэнцыі правёў сустрэчу з журналістамі Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі і інфармацыйнага агенцтва БЕЛТА, у час якой зрабіў шэраг заяў па найбольш важных момантах палітычнага жыцця рэспублікі.

Выказваючы думку аб прапанаванай пэўнымі палітычнымі коламі ідэі правядзення «круглага стала», за якім павінны сабрацца прадстаўнікі найбольш уплывовых палітычных партый, рухаў і плыняў, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што не атрымаў афіцыйнага запрашэння прыняць удзел у гэтым мерапрыемстве. Далей Прэзідэнт заўважыў, што цяпер наогул не бачыць у гэтым «круглым стале» ніякага сэнсу. Ён выказаў упэўненасць, што беларускі народ будзе праяўляць разважнасць, адзінства, працавітасць, згуртаванасць. Уласна кажучы, падкрэсліў Прэзідэнт, у гэтых якасцях народа, які выбраў яго, ён ніколі не сумняваўся і яшчэ раз пераканаўся ў час рабочай паездкі па Гомельскай вобласці. Кіраўнік дзяржавы крытычна ацаніў чуткі, якія ўпарта раздуваюцца, аб быццам бы нарастаючай у рэспубліцы «нязгодзе» сярод народа, назваўшы гэты тэрмін звычайным лозунгам палітыканаў.

«Я запрашаю ўсе партыі, грамадскія рухі, плыні, якія сёння зацікаўлены ў сапраўднай нацыянальнай згодзе, у эканамічнай магутнасці нашай дзяржавы, — заявіў Аляксандр Лукашэнка, — сесці за мой стол, круглы або квадратны ён будзе — гэта зусім не важна, для абмеркавання эканамічнага курсу нашай краіны, выкладзенага ў распрацаванай па даручэнню Прэзідэнта праграме, канчатковае ўзгадненне якой павінна адбыцца 15 жніўня».

Для рэалізацыі гэтай праграмы, як падкрэсліў далей Прэзідэнт, патрэбна адпаведная нарматыўна-заканадаўчая база. Менавіта яе стварэць пэўныя змяненні ў дзеючай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Але спачатку, на думку Аляксандра Лукашэнкі, прапанаваныя ім змяненні павінны атрымаць ацэнку на агульнанародным рэферэндуме.

Асобна Аляксандр Лукашэнка спыніўся на распачатай шэрагам дэпутатаў Вярхоўнага Савета рэспублікі кампаніі выездаў «у народ» з мэтай больш шырокай прапаганды сваёй работы і вынікаў мінулай сесіі.

«Як мне далажылі, — сказаў Прэзідэнт, — выезды гэтыя ўяўляюць сабой не што іншае, як масавую антыпрэзідэнцкую кампанію з боку Вярхоўнага Савета. Паўстае пытанне, чаму гэта адбываецца?

Я лічу, што дэпутаты проста спалохаліся правядзення рэферэндуму, які я прапаную. Аднак я не бачу ў сваіх дзеяннях нічога процізаконнага. Я проста карыстаюся сваім канстытуцыйным правам і ўношу прапанову аб рэферэндуме. Гэта зусім натуральна: Прэзідэнт у сваёй дзяржаве раіцца з народам... Лічу, што негатыўныя да мяне адносіны ўзнікаюць з-за неразумення маіх новых прапаноў. Мне вядома, што выказваюцца нават меркаванні аб тым, што, маўляў, Прэзідэнт мае намер разагнаць Вярхоўны Савет. У мяне няма такой мэты».

Аляксандр Лукашэнка растлумачыў сэнс некаторых паправак да Канстытуцыі, у неабходнасці прыняцця якіх, ён упэўнены, народ з ім згодзіцца. У прыватнасці, з Вярхоўнага Савета плануецца сфарміраваць Палату прадстаўнікоў і Сенат.

У бліжэйшы час, падкрэсліў кіраўнік дзяржавы, прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта сустрэнуцца з тымі дэпутатамі, хто хоча працаваць з Прэзідэнтам.

На заканчэнне Аляксандр Лукашэнка яшчэ раз падкрэсліў, што верыць у наш народ, спадзяецца на яго разуменне і падтрымку.

**Таццяна СМІРНОВА.**

## ПАСЛЯ ЎРАЧЫСТАЙ ЦЫРЫМОНІІ ЎСТУПЛЕННЯ НА ПАСАДУ ПРЭЗІДЭНТА РАСІІ АДБУДЗЕЦЦА ГУТАРКА АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ З БАРЫСАМ ЕЛЬЦЫНЫМ

Кіраўнік беларускай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка 8 жніўня вылеціць у Маскву, дзе прыме ўдзел ва ўрачыстасцях з нагоды інаўгурацыі Барыса Ельцына. У складзе афіцыйнай дэлегацыі — прэм'ер-міністр рэспублікі Міхаіл Чыгір, міністр замежных спраў Уладзімір Сянько, а таксама Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Расійскай Федэрацыі Віктар Даніленка.

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, урачыстая цырымонія ўступлення на пасаду нававыбранага прэзідэнта Расіі адбудзецца 9 жніўня ў Дзяржаўным Крамлёўскім палацы (былым Крамлёўскім палацы з'ездаў), а не на Сабornай плошчы Крамля. Такое рашэнне прынята на сустрэчы Прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына з Анатолем Чубайсам, што адбылася 7 жніўня ў Крамлі. Праграма правядзення інаўгурацыі ў Дзяржаўным Крамлёўскім палацы прадугледжвае больш спрошчаную цырымонію правядзення гэтага мерапрыемства, але ў той жа час з захаваннем урачыстасці і, галоўнае, патрабуе значна менш фінансавых затрат.

Прадугледжваецца, што ў гэты ж дзень адбудзецца асабістая гутарка Аляксандра Лукашэнкі з Барысам Ельцыным.

**БЕЛТА.**

## ПРЭЗІДЭНТ АДАБРАЕ ІДЭЮ ЖУРНАЛІСТАЎ І КАМПАНІІ «ШАРП»

Перспектывы рэалізацыі сумеснага беларуска-японскага праекта па стварэнню на базе шэрага прадпрыемстваў айчыннай радыёэлектроннай прамысловасці новых вытворчасцей абмяркоўваліся 7 жніўня на сустрэчы Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з прэзідэнтам японскай кампаніі «Іточу Карпарэйшн» Такечы Хідзакі і прадстаўнікамі міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі «Мір».

Гісторыя гэтага праекта пачалася з таго, што вядомая і вельмі папулярная ва ўсім свеце кампанія «Шарп» прапанавала ў самыя сціслыя тэрміны арганізаваць у Беларусі зборку тэлевізараў «Шарп». Яе верны і надзейны памочнік — кампанія «Іточу Карпарэйшн», якая спецыялізуецца на збыце прадукцыі маркі «Шарп», падтрымала гэты намер і гатова арганізаваць продаж выпушчаных вырабаў. Сфармулявалі ідэю журналісты з тэлерадыёкампаніі «Мір».

Як падкрэсліў у сваім уступным слове Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, беларускі бок зацікаўлены ў ажыццяўленні гэтай задумы, бо бачыць у ёй перш за ўсё аснову для далейшага расшырэння і паглыблення кантактаў з такімі знакамітымі партнёрамі. Ён выказаў упэўненасць у тым, што пачынанне будзе мець поспех, падкрэсліў, што беларускай радыёэлектроннай прамысловасці, якая мае нядрэнны вытворчы патэнцыял, у апошнія гады асабліва неабходныя свежыя ідэі, новыя тэхналогіі сусветнага ўзроўню.

На сустрэчы падкрэслівалася, што і новыя тэлевізары, і іншая тэхніка, выпушчаная ў рамках гэтага праекта ў Беларусі, не будуць канкураваць з айчыннай, бо прадаваць іх плануюць за межамі рэспублікі. Для арганізацыі збыту прадукцыі і «Іточу Карпарэйшн», і міждзяржаўная тэлерадыёкампанія «Мір», якая шмат зрабіла для нараджэння новага праекта, маюць шырокую сетку сваіх прадстаўнікоў: японцы — ва ўсім свеце, «міраўцы» — у рэспубліках СНД.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

**Кошт паслуг устаноў аховы здароўя** падаражэў у чэрвені на 4,9 працэнта, праезду ў грамадскім транспарце — на 3,4 працэнта.

Па стану на чэрвень запазычанасць айчынным прадпрыемствам з боку краін СНД і Прыбалтыкі складала **5,1 трыльёна рублёў**, у той час як Беларусь завінавацілася сваім партнёрам **9,8 трыльёна рублёў.**

Доля аўтатранспарту **ў агульным забруджванні атмасферы** вуглеродамі складае 35 працэнтаў, вокісам азоту — 23 працэнты.

Цяпер насельніцтва **аплочвае толькі 38** працэнтаў кошту цеплавой энергіі, але, магчыма, гэта лічба ў бліжэйшы абагравальны сезон **павысіцца да 50 працэнтаў.**

У першым паўгоддзі спецыялістамі брэсцкай Службы кантролю Прэзідэнта **прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці** каля 230 чалавек, занятых у гандлі, якія аштрафаваны больш чым на 70 мільёнаў рублёў.

**Узровень росту насельніцтва краін**, якія развіваюцца, у сярэднім складаючы 4,5 працэнта ў 1995 годзе, будзе апярэджваць узровень росту насельніцтва развітых краін на 2,5 працэнта.



## ПАДАЗРАВАЕМЫЯ ВЫЯЎЛЕНЫ

У рэспубліканскай прэсе, у тым ліку і ў «Звяздзе», паведамлялася аб тым, што 24 ліпеня быў па сутнасці апаганены Кафедральны сабор на плошчы Свабоды, што ў Мінску. Расследаванне гэтага здарэння супрацоўнікамі міліцыі, грамадскасцю па крупінках праліявала святло на гэту «д'ябальскую» справу, учыненую ў перадсвятальныя гадзіны дня святой роўнаапостальскай княгіні Вольгі — светлае свята праваслаўнай царквы.

І вось выяўлены падазраваемыя. Ёсць усе падставы меркаваць, што гэтыя надпісы зрабілі 18-гадовы беспрацоўны мінчанін і двое 17-гадовых навучэнцаў сталічнага ПТВ. Адзін з навучэнцаў затрыманы.

**Васіль КУРЛОВІЧ, прэс-цэнтр МУС.**

# НЕЗАЛЕЖНУЮ БЕЛАРУСЬ ПАВАЖАЮЦЬ У СВЕЦЕ І ІМКНУЦЦА ДА СУПРАЦОЎНІЦТВА З ЁЙ

Святкаванне шостай гадавіны незалежнасці Беларусі атрымала шырокі рэзананс ва ўсім свеце. З гэтай выдатнай падзеяй беларускі народ і кіраўнікоў краіны павіншавалі лідэры многіх замежных дзяржаў, вядомыя палітычныя, грамадскія і рэлігійныя дзеячы. БЕЛТА працягвае знаёміць чытачоў з вытрымкамі з прывітальных тэлеграм, што прыйшлі на імя Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі.

***

З пажаданнем далейшага развіцця і ўмацавання дружалюбных адносінаў з нашай рэспублікай да кіраўніка дзяржавы звярнуўся Генерал-губернатар Аўстраліі Уільям Дзін. Ад імя ўрада і народа Аўстраліі ён выказаў глыбокую павагу Прэзідэнту і беларускаму народу.

***

Міру, прагрэсу і дабрабыту пажадаў незалежнай Беларусі Прэзідэнт Алжырскай Народнай Дэмакратычнай Рэспублікі Ламін Зеруаль. «Гэта шчаслівая нагода, — паведамляе ён у тэлеграме Аляксандру Лукашэнку, — дае магчымасць пацвердзіць прыхільнасць Алжыра да ўмацавання сувязей дружбы і супрацоўніцтва паміж нашымі дзвюма краінамі ў інтарэсах абодвух народаў».

***

Прэзідэнт Рэспублікі Балгарыя Жэлю Жэлеў у сваім віншаванні з нагоды Дня незалежнасці Беларусі выказаў «упэўненасць у далейшым паспяховым развіцці традыцыйна добрых адносінаў паміж нашымі краінамі ў інтарэсах народаў Балгарыі і Беларусі, міру і бяспекі ў Еўропе і ва ўсім свеце».

***

Ад імя дзяржаўных органаў Рэспублікі Босніі і Герцагавіны з шостай гадавінай незалежнасці беларускі народ і Прэзідэнта краіны прывітаў старшыня Прэзідыума гэтай маладой еўрапейскай рэспублікі Алія Ізетбегавіч.

***

Сардэчныя віншаванні і найлепшыя пажаданні прыслаў кіраўніку Беларусі Прэзідэнт Сацыялістычнай Рэспублікі В'етнам Ле Дык Ань. Ён спадзяецца, што «традыцыйная дружба і ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва паміж В'етнамам і Беларуссю будуць няўхільна ўмацоўвацца і развівацца».

***

Асабістага шчасця Аляксандру Лукашэнку, а народу Беларусі — дабрабыту і працвітання жадае ў сваёй тэлеграме Прэзідэнт Грэчаскай Рэспублікі Канстанцін Стэфанапулас.

***

Запэўненні ў высокай павазе і пажаданні шчасця Прэзідэнту і народу Беларусі выказаў у сваім прывітанні з нагоды Дня незалежнасці Прэзідэнт Арабскай Рэспублікі Егіпет Мухамед Хосні Мубарак.

***

Надзею на развіццё традыцыйна добрых і дружалюбных адносінаў паміж Беларуссю і Рэспублікай Македонія выказаў у прывітальнай тэлеграме Прэзідэнт гэтай маладой краіны Кіра Глігараў.

***

З нагоды нацыянальнага свята — Дня незалежнасці — пажаданні прагрэсу і працвітання народу Беларусі выказаў Прэзідэнт Партугальскай Рэспублікі Жоржы Сампайю.

**БЕЛТА.**

# ВЫЗВАЛЕНЫ АД ПАСАДЫ

Распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у сувязі з выхадам у адстаўку Анатоль Радзько вызвалены ад пасады старшыні суда Чэрвеньскага раёна.

Суддзя Ленінскага суда горада Магілёва Уладзімір Стукін вызвалены ад пасады ў сувязі з заключэннем кваліфікацыйнай калегіі суддзяў Магілёўскай вобласці аб немагчымасці яго далейшага знаходжання на гэтай пасадзе.

Па ўласнаму жаданню вызвалены: Андрэй Федарук — ад пасады суддзі суда Брэсцкага раёна і Аляксандр Федзюкевіч — ад пасады суддзі суда г. Полацка.

Уладзімір Захвіцэвіч па ўласнаму жаданню вызвалены ад пасады старшыні суда Клецкага раёна, але застаецца на пасадзе суддзі гэтага ж суда.

**БЕЛТА.**

# ПОЛЫМЯ З НІЧОГА?

## МІЛІЦЫЯ І ПАЖАРНЫЯ ЗАФІКСАВАЛІ Ў ГОМЕЛІ НЕЗВЫЧАЙНУЮ ПРЫРОДНУЮ З'ЯВУ

Нацярпелася страху адна гомельская сям'я, калі, вярнуўшыся позна вечарам з дачы, убачыла ў кватэры незвычайную «ілюмінацыю». Спачатку загарэўся балкон. Гаспадыня і яе дваццацігадовы сын кінуліся тушыць пажар. Толькі паспелі справіцца з гэтай бядой, заўважылі, што ўспыхнуў і балкон на кухні. Паклікалі на дапамогу суседзяў.

А ў кватэры ўжо адбывалася неверагоднае. Не паспеюць патушыць агонь у туалеце, як загарыцца ў гасцінай. За кароткі час было зафіксавана больш чым 20 загаранняў. Выклікалі пажарных і міліцыю. Тыя са здзіўленнем назіралі, як з нічога ўспыхвала полымя. Прычым агонь дзейнічаў быццам бы па заказу: выбіраў мэблю і новае адзенне.

Відавочцы адзначаюць, што спачатку чулі патрэскванне. Потым — пах серы, як ад запалак, і, нарэшце, успыхвала жоўтае полымя, быццам бы гарэў порах.

Каменціруючы гэтую незвычайную з'яву абласной тэлерадыёкампаніі, старшы інжынер навукова-практычнага цэнтра пажарнай бяспекі ўпраўлення ваенізаванай пажарнай службы Гомельскага аблвыканкома Аляксандр Авяр'янаў падкрэсліў, што сам быў сведкам трох загаранняў у гэтай кватэры. Такога ў Гомельскай вобласці ён не памятае. Праўда, у літаратуры падобныя прыклады сустракаў. Але апісаныя выпадкі адбываліся выключна ў прысутнасці гаспадароў. Тут жа ўзгаранні бачылі суседзі, работнікі міліцыі і пажарныя.

**Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.**

# КУЛЯ ДЛЯ ПАЛКОЎНІКА

**У ноч з 6 на 7 жніўня зроблены замах на начальніка Рэчыцкага ГРАУС палкоўніка міліцыі Аляксандра Антоненку. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА, злачынец сустрэў Аляксандра Мікітавіча ля пад'езда яго дома, калі той вяртаўся са службы, і выстраліў на паражэнне. Толькі цудам выратаваўся палкоўнік: у апошні момант ён паспеў ухіліцца і куля трапіла ў руку.**

Аляксандр Антоненка менш года ўзначальвае Рэчыцкі гаррайаддзел унутраных спраў. Відаць, камусьці не спадабаліся яго намаганні па актывізацыі ў горадзе барацьбы з крымінальнымі элементамі.

Спецыяльна створаная аператыўна-вышуковая група работнікаў міліцыі і пракуратуры цяпер прапрацоўвае розныя версіі замаху і пакуль устрымліваецца ад каментарыяў.

**Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.**

# МІХАІЛ СУХІНІН: «ЗВАРОТ КІРАЎНІЦТВА БНФ У ВЯРХОЎНЫ СУД НЕ МАЕ СЭНСУ»

**У мінулы аўторак на прэс-канферэнцыі выконваючы абавязкі старшыні Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» Лявон Баршчэўскі фактычна абверг прагучаўшую ў «Звяздзе» са слоў міністра юстыцыі Беларусі Валянціна Сукалы інфармацыю, паводле якой гэта грамадскае аб'яднанне не аспрэчвала ніводнага з двух вынесеных у яго адрас пісьмовых папярэджанняў.**

У прыватнасці, сп. Баршчэўскі паведаміў, што 25 ліпеня кіраўніцтва Народнага фронту звярнулася з абскарджаннем у Вярхоўны суд.

Па каментарый гэтай заявы наш карэспандэнт звярнуўся да начальніка ўпраўлення па справах грамадскіх арганізацый Міністэрства юстыцыі Міхаіла Сухініна:

— Перш-наперш трэба заўважыць, што якіх-небудзь звестак наконт абскарджання пісьмовых папярэджанняў Беларускім народным фронтам «Адраджэнне» ў Міністэрстве не маюць. Але нават калі адпаведная заява і трапіла ў Вярхоўны суд, то з юрыдычнага пункту гледжання сэнсу яна не мае. Справа ў тым, што закон дазваляе абскарджваць у Вярхоўным судзе рашэнні Мінюста аб адмове ад рэгістрацыі альбо аб ліквідацыі таго ці іншага грамадскага аб'яднання. Што датычыць спрэчных момантаў вакол вынясення пісьмовых папярэджанняў, падобныя справы ў Вярхоўным судзе не разглядаюцца. Рашэнне аб вынясенні папярэджання за подпісам першага намесніка міністра (як у выпадку з БНФ «Адраджэнне») павінна абскарджвацца непасрэдна міністру юстыцыі Беларусі.

**Сяргей ГРЫБ.**

*НАЎЗДАГОН*

# ПРАФСАЮЗЫ ПРАПАНУЮЦЬ ПАВЫСІЦЬ «МІНІМАЛКУ»

***Як вядома, днямі Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі накіравала на адрас Прэзідэнта і Кабінета Міністраў ліст, у якім было прапанавана з 1 верасня павялічыць памеры мінімальнай заработнай платы і тарыфнай стаўкі першага разраду. Пазіцыю прафсаюзаў тлумачыць намеснік старшыні ФПБ Франц Пятровіч ВІТКО.***

**— На ваш погляд, якой павінна быць мінімальная зарплата і тарыфная стаўка першага разраду?**

— Федэрацыя прафсаюзаў мяркуе, што яна павінна быць не менш як 150 і 170 тысяч рублёў адпаведна.

**— Адкуль з'явіліся гэтыя лічбы?**

— Нягледзячы на тое, што з пачатку года мінімальная зарплата застыла на месцы, спажывецкія цэны, у тым ліку на тавары першай неабходнасці, працягваюць расці. Асабліва інтэнсіўны гэты рост быў у ліпені—пачатку жніўня. Таму мы прагназіруем, што да восені мінімальны сярэднедушавы спажывецкі бюджэт сям'і з чатырох чалавек будзе роўны недзе 1 мільёну 350 тысячам рублёў. У адпаведнасці з Генеральным пагадненнем тарыфная стаўка першага разраду павінна складаць не менш як 12 працэнтаў ад мінімальнага спажывецкага бюджэту, а з улікам фіксаваных даплат — не менш як 21 працэнт. Ужо зараз гэтага няма. А восенню, калі выдаткі насельніцтва традыцыйна ўзрастаюць (на нарыхтоўку прадуктаў харчавання на зіму, на камунальныя плацяжы і г.д.), узровень жыцця стане яшчэ больш нізкі. Улічваючы гэта, а таксама далейшы рост цэн, прафсаюзы прыйшлі да высновы, што, каб захаваць наяўныя суадносіны паміж даходамі людзей і спажывецкім бюджэтам, мінімальная зарплата павінна ўзрасці хаця б у паўтара раза.

**— Што такое гіперінфляцыя, кожны з нас добра памятае. Ці не баіцеся вы, што з павелічэннем «мінімалкі» стане яшчэ горш?**

— Трэба добра ўсвядоміць тыя фактары, якія ўплываюць на інфляцыю. Справа ў тым, што ўдзельная вага зарплаты ў дадзеным выпадку мізэрная — не больш за 6—8 працэнтаў. Інфляцыю сёння перш-наперш стварае іншае: рост цэн на энерганосьбіты, сыравіну, павелічэнне накладных выдаткаў у сабекошце прадукцыі і г.д.

**— У такім разе апошняе: як адрэагаваў на прапанову прафсаюзаў павялічыць мінімальную заработную плату ўрад?**

— Пакуль аб рэакцыі казаць рана: прапанову толькі прынялі да разгляду. Але варта заўважыць, што названыя прафсаюзамі лічбы адпавядаюць зацверджанаму Прэзідэнтам прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі на 1996 год.

**Сяргей ГРЫБ.**

# «МАГНАТБАНК» НЕ ЛІКВІДАВАНЫ. АДНАК У ЯГО КЛІЕНТАЎ ЁСЦЬ ПРЭТЭНЗІІ

Па колькасці званкоў і пісьмаў, якія фіксуе наша рэдакцыя і якія датычацца ўкладчыкаў камерцыйных банкаў, можна зрабіць выснову, што спакой пэўнай часткі насельніцтва парушаны. Асабліва гэта датычыцца людзей, якія даверылі свае сродкі «Магнатбанку». На працягу апошніх месяцаў яны безвынікова спрабуюць атрымаць у гэтай фінансавай установе свае грашовыя сродкі. Апублікаваныя ў прэсе тэлефоны ліквідацыйнай камісіі, па якіх павінны былі б патлумачыць сітуацыю, як скардзяцца чытачы, не працуюць (гэта сапраўды так, — ва ўсякім разе, мы таксама не дазваніліся туды за апошнія два дні). Карацей, клопат простых людзей, якіх прыціснулі абставіны, цалкам зразумелы. Усіх іх цікавіць наступнае пытанне: як хутка можна будзе вярнуць назад свае сродкі?

На вялікі жаль, аб тэрмінах вяртання грошай банкам нічога канкрэтнага мы таксама сказаць не можам. Пакуль сітуацыя вакол «Магнатбанка» застаецца нявырашанай. Кіраўніцтва банка звярнулася ў Гаспадарчы суд з пратэстам, які аспрэчвае рашэнне Нацыянальнага банка аб прымусовай ліквідацыі першага і аб стварэнні ліквідацыйнай камісіі. Суд спыніў дзеянне рашэння Нацыянальнага банка. Такім чынам, на сённяшні дзень далейшы лёс «Магнатбанка» пакуль застаецца на парадку дня. Як і вяртанне яго даўгоў. «Банк» пакуль жывы, што, аднак, не надае аптымізму яго кліентам.

Не заспакойвае фізічных асоб і палажэнне «Аб гарантыйным фондзе абароны ўкладчыкаў і дэпазітаў фізічных асоб», згодна з якім гарантуецца вяртанне пэўнай сумы (да 2000 долараў) іх укладу. Аднак у дадзенай сітуацыі хацелася б нагадаць знакаміты выраз: надзея заўсёды памірае апошняй. Ёсць пэўныя нормы, законы, якія хваляванне кліентаў ніякім чынам не апраўдваюць. Будзем спадзявацца (якое ненадзейнае слова, праўда?), што сітуацыя з колішнімі абавязацельствамі Ашчадбанка СССР у дадзеным выпадку не паўторыцца.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

# ПРАДПРЫЕМСТВЫ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ УЛАСНАСЦІ ПРЫВАТЫЗАВАЦЦА НЕ СПЯШАЮЦЦА

**Гэтымі днямі ў сталіцы Беларусі адбылася пашыраная калегія Міндзяржмаёмасці з удзелам зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў.**

На ёй, у прыватнасці, адзначалася, што за першае паўгоддзе не было прыватызавана ніводнага дзяржпрадпрыемства рэспубліканскага падпарадкавання. Разам з тым праграма прыватызацыі на 1996 год прадугледжвае змену формы ўласнасці на 500 буйных дзяржпрадпрыемствах. У той жа час нават нерэнтабельныя дзяржгаспадаркі, на думку нам. міністра па кіраванню дзяржмаёмасцю і прыватызацыі В. Давыдзенкі, не праяўляюць прыметнай цікавасці да рэформаў, а многія кіраўнікі працягваюць дзейнічаць чыста адміністрацыйнымі метадамі. Да гэтага варта дадаць, што 66 прадпрыемстваў папрасілі выкрасліць іх з Пераліку аб'ектаў рэспубліканскай уласнасці, якія падлягаюць раздзяржаўленню і прыватызацыі ў 1996 годзе. Падобныя адмовы звязаны ў першую чаргу з непадрыхтаванасцю дырэктарскага корпуса да работы ў новых умовах.

Не распрацаваны праграмы прыватызацыі камунальнай уласнасці ў Добрушы, Бабруйску, Барысаве, у Расонскім раёне.

Калі летась ад прыватызацыі ў бюджэт паступіла 161,47 млрд. рублёў, то сёлета выручка павінна складаць 1 трыльён 565,6 млрд. рублёў, у тым ліку 998 млрд. рублёў ад рэфарміравання рэспубліканскай і 567,6 млрд. рублёў — камунальнай уласнасці. Выканаць гэтае заданне ўрада міністэрству будзе вельмі цяжка, бо за першае паўгоддзе прыватызацыя прынесла бюджэту толькі 58,469 млрд. рублёў даходу.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# РЭГІСТРАЦЫЙНАЕ «СІТА» ПРАЙШЛІ НЕ ЎСЕ ПЕРЫЯДЫЧНЫЯ ВЫДАННІ

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку накіраваў абласным органам кіравання і друкарням пісьмо-патрабаванне не друкаваць выданні, якія не прайшлі ў 1996 годзе рэгістрацыю. Згодна з адпаведным загадам Камітэта па друку, пасведчанні, выдадзеныя ім раней, лічацца несапраўднымі.

Як вядома, вышэйназваная рэгістрацыя праводзілася ў адпаведнасці з распараджэннем Прэзідэнта Беларусі. Большасць рэдакцыйных калектываў пацвердзіла сваё жаданне выпускаць газету або часопіс. Некаторыя з іх у ходзе рэгістрацыі ўнасілі неабходныя змяненні ў нарматыўныя дакументы. Цяпер у Беларусі налічваецца 614 перыядычных выданняў, у той час як да пачатку рэгістрацыі іх было 897. Каля двухсот друкаваных сродкаў масавай інфармацыі новыя пасведчанні не атрымалі, таму іх выпуск становіцца праблематычным.

**Прэс-служба Дзяржкамдруку – БЕЛТА.**

*ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

### ДРУГІ ДЗЕНЬ ВЯДУЦЦА БАІ Ў ГРОЗНЫМ І АРГУНЕ

Учора цяжкія баі ў сталіцы Чачні Грозным працягваліся. Як паведамляецца, што чачэнскую аперацыю ўзначальвае Шаміль Басаеў, вядомы па леташнім нападзе на Будзёнаўск. Расійскі бок паведамляе, што забіта каля 30 салдат і больш як 100 вайскоўцаў атрымалі раненні.

Па словах карэспандэнта радыё «Свабода», чачэнцы ўчора знаходзіліся ва ўсіх раёнах Грознага, у тым ліку і побач з будынкамі МУС, ФСБ і ўрада Чачні. Агонь па гэтых будынках вёўся прамой наводкай. Кіраўнік ўрада Чачні Заўгаеў знаходзіўся на расійскай ваеннай базе ў Ханкале, якую асаджалі сілы супраціўлення.

Па словах міністра інфармацыі Ічкерыі Удугава ўчора аднавіліся баі і ў Аргуне.

Кіраўнік расійскай дэлегацыі на перагаворах з чачэнскімі сепаратыстамі Вячаслаў Міхайлаў заявіў «Інтэрфаксу», што дзеянні баевікоў, пазіцыя, занятая кіраўнікамі апазіцыі, яскрава сведчаць, што ім не патрэбен мір і згода, «ім чужыя інтарэсы чачэнскага народа». «Цяпер становіцца зразумела, чаму начальнік галоўнага штаба сепаратыстаў Аслан Масхадаў зацягваў аднаўленне перагаворнага працэсу -- у гэты час сепаратысты рыхтавалі маштабную правакацыю»,-- падкрэсліў В. Міхайлаў.

### ВЫБУХ ПАД МАСКВОЙ НАЗВАЛІ АКТАМ ХУЛІГАНСТВА

Следчыя прыйшлі да высновы, што выбух, які адбыўся ў аўторак раніцай на перакрыжаванні Рублёўскай шашы і Маскоўскай кальцавой дарогі, быў актам хуліганства. Маскоўская пракуратура пагадзілася з такой высновай. Узбуджана крымінальная справа. За некалькі хвілін да выбуху па шашы праехаў картэж прэм'ер-міністра Расіі Чарнамырдзіна.

### 27 ЖНІЎНЯ Ў РАСІІ ЧАКАЕЦЦА «НЯЛЁТНАЕ НАДВОР'Е»

Расійскія пілоты і дыспетчары пагражаюць абвясціць 27 жніўня ўсеагульную забастоўку. Галоўныя патрабаванні, якія будуць выстаўлены, — павысіць зарплату і палепшыць умовы працы.

### НЕВЯДОМЫЯ ПАГРАЖАЮЦЬ УЗАРВАЦЬ АДЗІН З АМЕРЫКАНСКІХ АБ'ЕКТАЎ У КУВЕЙЦЕ

Ананімная пагроза ўзарваць адзін з амерыканскіх аб'ектаў у Кувейце паступіла ў аўторак у англамоўную газету «Араб таймс», якая выходзіць у сталіцы гэтай краіны. Прадстаўнік Пасольства ЗША ў Кувейце адмовіўся каменціраваць гэту інфармацыю, заявіўшы, аднак, што супрацоўнікі пасольства ўвялі дадатковыя меры бяспекі.

### БАРАЦЬБУ З ТЭРАРЫЗМАМ ПА-АМЕРЫКАНСКУ НЕ ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ

Японія, Кітай, Бразілія, Аўстралія і Расія далучыліся да пратэстаў Еўрапейскага саюза супраць новага амерыканскага заканадаўства, якое прадугледжвае санкцыі супраць замежных кампаній, якія робяць буйныя інвестыцыі ў Іране і Лівіі. Прадстаўнікі гэтых краін заявілі, што лічаць неабходнай барацьбу з тэрарызмам, але сумняваюцца ў эфектыўнасці захадаў, зробленых Злучанымі Штатамі, і незадаволены іх аднабаковым характарам. Прэзідэнт Францыі Шырак заявіў, што калі Вашынгтон на самай справе ўвядзе гэтыя санкцыі, Францыя зробіць захады ў адказ.

### СУСЕДНЯЯ РУАНДА ПАДТРЫМАЛА НОВЫ ЎРАД БУРУНДЗІ

Руанда заявіла пра сваё рашэнне наладзіць супрацоўніцтва з новым ваенным урадам у Бурундзі, які ўзяў уладу ў мінулым месяцы шляхам перавароту. Віцэ-прэзідэнт Руанды заявіў, што яго краіна адмаўляецца падтрымліваць рашэнне іншых краін рэгіёна аб увядзенні эканамічных санкцый супраць Бурундзі. У інтэрв'ю карэспандэнту Бі-бі-сі ён заявіў пра намер супрацоўнічаць з кіраўніцтвам суседняй краіны, якую зараз узначальвае маёр, па паходжанню таксама туці. Кенія і Танзанія ўжо ўстанавілі блок-пасты на прыгранічных дарогах з Бурундзі і ў паветры.

### НА БЛІЗКІМ УСХОДЗЕ ШУКАЮЦЬ ШЛЯХІ ДА МІРУ

Лідэры арабскіх краін праводзілі ўчора кансультацыі наконт зрушэння з мёртвага пункту мірнага працэсу на Блізкім Усходзе. Прэзідэнт Сірыі Асад сустрэўся з прэзідэнтам Егіпта Мубаракам каб абмеркаваць ізраільскую прапанову пра вывад войскаў з Паўднёвага Лівана як папярэднюю ўмову падпісання агульнага мірнага пагаднення з Ізраілем.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**



## МІНСКАЕ АБЛАСНОЕ ПРАДПРЫЕМСТВА АЎТАМОТАСЕРВІСУ І ГАНДЛЮ:

# ПОШУК ПЕРСПЕКТЫВЫ І КЛІЕНТА-ПАКУПНІКА

**Сучасны рынак яшчэ далёкі ад таго, каб належным чынам задаволіць патрэбы пакупніка, а таксама вырашыць задачы і клопаты гандляра, ды і вытворцы. Прычын на тое шмат. Адны рашуча вінавацяць дзяржаву, што наўздзіў марудна рухаецца да квітнеючага капіталізму. Заадно канкрэтызуюць пралікі, якія трэба ліквідаваць ці не ў першую чаргу. Стварэнне нармальнай юрыдычнай базы для пашырэння прыватнага сектара эканомікі, упарадкаванне сістэмы падаткаабкладання, дзяржаўнае спрыянне малому і сярэдняму бізнесу — вось крокі, якіх патрабуюць, якіх чакаюць, на якія спадзяюцца. Але, відавочна, тут варта заўважыць і наступную акалічнасць. У дадатак да ўсяго трэба ж паклапаціцца і пра патэнцыяльнага спажыўца. У малазабяспечанага, сацыяльна абяздоленага чалавека, пагадзіцеся, не шмат цікаўнасці да рынку, да супершырокага спектра паслуг і тавараў. Калі ў кішэні пуста, то і многія патрэбы, у якой бы абгортцы іх ні падносілі, здаюцца другараднымі альбо зусім не вартымі ўвагі. Клопат жа пра патэнцыяльнага пакупніка, забяспечанасць яго мінімальнай спажывецкай карзінкай — задача хіба што толькі дзяржаўная. Вось і ўявіце, які дамоклаў меч вісіць над дзяржаўнымі інстытутамі і службамі. З аднаго боку — патрэба ў рашучым рэфарміраванні эканомікі. З другога — пільная неабходнасць сацыяльнай падтрымкі насельніцтва. І як тут быць? І як у такіх умовах пачынаць сваю справу? Думаючы, разважаючы пра гэта, і пачалі мы сваю размову з генеральным дырэктарам Мінскага абласнога дзяржаўнага прадпрыемства аўтамотасервісу і гандлю Генадзем Іванавічам КАТАРСКІМ. Чалавек, кіраўнік у сваёй галіне добра вядомы. Адзін штрышок: аб'яднанне, якое ўжо ўваходзіла структурна пад самыя розныя дахі, Катарскі ўзначальвае болей як два дзесяцігоддзі.**



**— Генадзь Іванавіч, давайце пачнём ці хаця б паспрабуем пачаць наш дыялог з такога вось канкрэтнага вымярэння. Чым для вас асабіста з'яўляецца рынак?**

— Гледзячы які рынак. Калі ўсе ўласнікі пастаўлены ў аднолькавыя ўмовы, калі ўлада паслядоўная ў выкананні прынятых рашэнняў, калі ўлічваюцца нашы, гандляроў, вытворцаў, запатрабаванні, то чаму ж я павінен супрацiўляцца рынку?

**— А вы лічыце, што ўсё зусім не так, што спрыяння і падтрымкі ў развіцці рынку няма?**

— Магчыма, нешта робіцца. Але, пэўна ж, большай часткай — хваравіта, з вялікімі высілкамі як з боку розных сацыяльных груп, так і з боку дзяржавы — на паперы. Рэчаіснасць жа зусім іншая.

**— Магчыма, нешта зменіць Падатковы кодэкс, размовы пра які апошнім часам сталі больш выразныя...**

— Будзем спадзявацца. Усё жыццё і праходзіць у спадзяваннях... Лічу, перакананы, што іншым павінен быць механізм пераходу ў рынак, больш дасканалым, па прыкладу развітых краін. Вось і з паваротам дзяржавы да малога і сярэдняга прадпрымальніцтва, абвешчаным нядаўна на з'ездзе дзелавых колаў Беларусі, баюся, наломім дроў. У нас жа як атрымліваецца? Або густа, або пуста. Вось скіруем увагу на малое прадпрымальніцтва, а буйнога ўдзельніка рынку абмінём увагай. А, між іншым, тыя ж дзяржаўныя прадпрыемствы — таксама суб'екты рынка. І хіба магчымы нейкія пераўтварэнні ў эканоміцы без удзелу таго ж МТЗ?

**— Вы гаворыце пра іншы механізм?.. Дык якім ён усё ж павінен быць?**

— Найперш — паслядоўным, створаным і запушчаным усё ж дзеля дзяржаўных суб'ектаў гаспадарання. Зразумейце мяне правільна. Будучы прыхільнікам прыватызацыі, рэфарміравання формаў уласнасці, я не хацеў бы, каб рушылася, гібела створаная раней сістэма. Што тычыцца нашай галіны, то яна — сістэма абслугоўвання ўладальнікаў асабістага транспарту — дзейнічае нармальна, ахопліваючы ўсіх спажыўцоў. Спрыяе нам сёння і тое, што структурна падпарадкоўваемся аблвыканкому. Нас некалі дзялілі, развальвалі. На шчасце, мы ўсё гэта вытрымалі, выжылі. Зараз знаходзімся нашмат бліжэй да людзей, да спажыўцоў. Калісьці ж у Мінпроме былі ўсяго толькі кропляй у моры. А зараз адчуваем і самастойнасць, і ёсць пэўныя льготы для нас, паколькі знаходзімся ў сістэме бытавога абслугоўвання. Дарэчы, і на месцах такія структуры павінны заўжды быць у падпарадкаванні раённых уладаў.

І вось што хацеў бы заўважыць. Маладзечанскую, Слуцкую станцыі, вядомы «Матэль» забралі, выкупілі (без згоды калектыву аб'яднання), а ці палепшыўся ў сферы іх дзейнасці аўтасервіс?.. Асабіста я — прыхільнік стройнай кіраўніцкай сістэмы. І думаю, што мэтазгодна ісці па шляху развіцця сеткі аўтасервісу ў кожным раёне. Трэба ствараць сетку муніцыпальных паслуг.

Вядома, нам шкада страчанага. Але ж магутнасці з продажам згаданых аб'ектаў у цэлым не знізіліся. Аб'яднанне развіваецца. Павялічылася колькасць рабочых месцаў. Расце і асартымент паслуг.

**— Няўжо ўсё было так бездакорна? Легендай жа стала тое, што жонка Высоцкага — Марына Уладзі вазіла мужу запчасткі з Парыжа...**

— Што датычыцца Высоцкага, то ў яго была іншамарка, што па тым часе, вядома ж, выклікала праблемы. А калі гаварыць увогуле пра мінулыя гады, то, відаць, калі б вы мелі ўласны аўтамабіль, то, канешне ж, пагадзіліся б, што аўтасервіс працаваў амаль што бездакорна.

**— Але ж вы заставаліся манапалістамі. Нельга было параўнаць цэны, якасць работ...**

— Адказ на дзве вашы заўвагі ляжыць, што называецца, на паверхні. Цэны зараз, канешне ж, можна параўноўваць. Але на чыю карысць параўнанне? Толькі на карысць дзяржаўнага прадпрыемства. Гэта ў аднолькавай ступені датычыцца і рамонтных клопатаў, і агульных паслуг. Як прыклад — мыццё аўтамабіля. У нас такая паслуга каштуе ў межах 25.000. У прыватніка ў шмат разоў больш. А калі гаварыць пра спецыялістаў, то няўжо вы думаеце, што яны выйшлі з якіхсьці іншых сцен, а не з нашых прадпрыемстваў, дзе прайшлі выдатную школу прафесіянальнага майстэрства?

**ПРАДПРЫЕМСТВЫ МІНСКАГА АБЛАСНОГА ДЗЯРЖАЎНАГА ПРАДПРЫЕМСТВА АЎТАМОТАСЕРВІСУ І ГАНДЛЮ**

| | |
|---|---|
| 1. Беразіно | 223310 г. Беразіно, Прамысловая, 1 |
| 2. Мар'іна Горка | 222810 г. М. Горка, Шацкая шаша |
| 3. Салігорск | 223710 г. Салігорск, Камунальная, 4 |
| 4. Мядзел | 222380 г. Мядзел, Інтэрнацыянальная |
| 5. Любань | 223810 г. Любань, Сацыялістычная, 1 |
| 6. Маладзечна | 222310 г. Маладзечна, Віленская, 40 |
| 7. Клецк | 222910 в. Клецкі раён, в. Бабаевічы |
| 8. Барысаў | 222120 г. Барысаў, Маскоўская шаша |
| 9. Смалявічы | 222210 г. Смалявічы, Маскоўская шаша |

***Увага: дабрачынная акцыя! Дзякуючы купонам «Звязды» вы зможаце знізіць свае затраты на паслугі Мінскага абласнога дзяржаўнага прадпрыемства аўтамотасервісу і гандлю***

**Паважаныя чытачы! Газета «Звязда» сумесна з Мінскім абласным дзяржаўным прадпрыемствам аўтамотасервісу і гандлю праводзіць дабрачынную акцыю па аказанню паслуг мінчанам і жыхарам Мінскай вобласці. Калі ў вас узнікне любая патрэба ў абслугоўванні ўласнага аўтамабіля, то, прад'яўляючы квітанцыю аб падпісцы на газету «Звязда», а таксама ніжэйнадрукаваны купон, у перыяд з 1 жніўня да 31 снежня 1996 г. вы маеце права на 5-працэнтную скідку з кошту паслуг. Купон будзе друкавацца ў газеце неаднойчы (на працягу да канца 1996 года). Так што вы можаце звяртацца за паслугамі па льготнаму тарыфу штораз згодна з колькасцю купонаў. Мы змяшчаем таксама і адрасы тых прадпрыемстваў на месцах, куды можна звяртацца, як і у цэнтр «Навінкі», з купонам «Звязды».**

**— Чаму тады ўсё ж такі людзі пакідаюць сістэму дзяржаўнага аўтасервісу?**

— Мы не можам гэтулькі заплаціць, колькі чалавек разлічвае зарабіць і пакласці ў кішэню ў прыватнай фірме. Сярэдні заробак па нашаму прадпрыемству складае каля 1 млн. рублёў. Асобныя спецыялісты атрымліваюць да трох мільёнаў рублёў. Ідуць ад нас многія не толькі ў прыватныя фірмы, але і ў ценявы аўтасервіс. Ёсць у цябе гараж у прыватным сектары — што больш трэба? Усё, што ні заробіш, — тваё, уласнае. Мы ж гэтулькі заплаціць не можам. Да таго ж, паўтаруся, і з кліента тры скуры ніколі не лупім. У нас — і гарантыі на абслугоўванне, рамонт, чаго ў ценявым аўтасервісе, вядома ж, няма.

Шэсць фактараў уплываюць на работу любой галіны. На першым плане — канкурэнцыя ў галіне. Затым новыя канкурэнты. І вельмі важны фактар — дзейнасць урада. Астатнія — пакупнікі, замена прадукцыі, пастаўшчыкі. Што ёсць для нас канкурэнцыя? Мы згодны працаваць з любым канкурэнтам, але — на роўных умовах. Ды нам перашкода ценявы аўтабізнес. А ён развіваецца як ланцуговая рэакцыя. Нехта ж, выходзіць, падтрымлівае іх? Некаму ж гэта выгадна? Велізарныя грошы праходзяць па-за бюджэтам.

Урад, дзяржава прынялі такія рашэнні па пошлінах, якія не спрыяюць развіццю аўтагандлю. Аўтабізнес пераходзіць у крымінальную сферу. Сёння машынамі гандлююць 200 суб'ектаў. Чаму б не навесці парадак і тут? Чаму б не наладзіць жорсткае ліцэнзаванне, чаму машынамі гандлююць тыя, хто не валодае тэхнічнай падтрыхтоўкай, працуе па вярхах»?

свае праблемы. Але ж усё ў прынцыпе вырашальнае. Тут ёсць самае сучаснае абсталяванне для абслугоўвання і рамонту легкавых аўтамабіляў айчыннай і замежнай вытворчасці.

**— Генадзь Іванавіч, ці нельга канкрэтызаваць, удакладніць, з якімі клопатамі гаспадары легкавых аўтамабіляў могуць звяртацца ў аўтацэнтр «Навінкі»?**

— Калі ласка. У нас вы можаце ажыццявіць дыягностыку, рэгуліроўку вуглоў кіруемых колаў, шынамантажныя і шынарамонтныя работы, кузаўны рамонт і афарбоўку з падборам фарбаў па тэхналогіі фірмы «Spies Hecker», антыкаразійную апрацоўку днішча і схаваных поласцей матэрыяламі і па тэхналогіі фірмы «Motip».

Да таго ж у «Навінках» ёсць камісійны рынак аўтатранспартнай тэхнікі. Мы ажыццяўляем — адзіныя сярод дзяржаўных прадпрыемстваў — камісійны гандаль легкавой, грузавой аўтатэхнікай і абсталяваннем. Тут ужо я хацеў бы звярнуцца да кіраўнікоў прадпрыемстваў. Безумоўна, паўсюдна існуе і аўтатэхніка, якая амаль не выкарыстоўваецца. Прадаставіўшы нам на дагаворных умовах гэтыя машыны, вы ўсё ж зможаце рэалізаваць непатрэбныя машыны, магчыма, атрымаеце ўзамен неабходную прадукцыю. Дарэчы, «Навінкі» могуць зрабіць і дробны рамонт, тэхнічнае абслугоўванне, афарбоўку машыны перад продажам. У сваю чаргу камісійная пляцоўка можа выканаць вашы заяўкі і па набыццю тэхнікі.

МУС і ДАІ выдаюць рахунак-фактуру, прадаюць і рэгіструюць аўтамабілі. Але ж у большасці там працуюць юрысты, а не тэхнічна падрыхтаваныя спецыялісты.

І яшчэ. Гадавы тэхнічны агляд, я перакананы ў гэтым, павінны праводзіць спецыялісты, фірмы. Так робіцца ва ўсім свеце. Справа не ў штрафах, а ў гарантыях.

Мытныя зборы таксама патрабуюць перагляду. Сёння ў Беларусь нявыгадна везці дабротны танны аўтамабіль.

**— Увогуле, калі гаварыць пра кліента сярэдняга, скажам так, дастатку, то тут вы, Генадзь Іванавіч, мусіць, па-ранейшаму застаяцеся манапалістам?**

— А чаму б і не? Да нас прыцягваюць параўнальна невысокія цэны. Мы ўважлівыя да сваіх кліентаў. Пастаянна турбуемся не толькі пра якасць, але і пра культуру абслугоўвання. Калі ў нас здараюцца рэкламацыі, то гэта надзвычайная падзея, бо такое ўвогуле бывае вельмі рэдка... Да нас едуць інваліды. Ім, людзям абяздоленым, не па кішэні рамантавацца, абслугоўвацца ў прыватніка альбо ў прадпрымальніка.

**— Дарэчы, буйнейшае структурнае падраздзяленне аб'яднання — аўтацэнтр. «Навінкі», размешчаны на самай ускраіне сталіцы: пасёлак Навінкі, вуліца Рабочая, 33...**

— І хаця сёння мала каго чым-небудзь можна здзівіць, лічу, што аўтацэнтрам «Навінкі» мы можам ганарыцца. Фарміруецца новы калектыў. Ёсць

Ёсць у «Навінках» і платная аўтастаянка на 600 аўтамесцаў. І гэта, заўважце, у цэнтры, які яшчэ толькі развіваецца. Адкрыўся наш цэнтр толькі на пачатку 1994 года.

**— Генадзь Іванавіч, зразумела, што вы шукаеце магчымыя шляхі развіцця. Не спрабавалі наладзіць трывалую сувязь з замежнымі фірмамі? Магчыма, з вытворцамі аўтамабіляў...**

— Чаму ж не?.. Мы выдатна ведаем аўтамабільны рынак не толькі ў СНД, але і ў Еўропе. Асабіста я нават доўгатэрміновую вучобу праходзіў у Германіі. Прадстаўнікі цэлага шэрага замежных аўтамабільных фірмаў, іх дылеры пабывалі на нашым прадпрыемстве. Вялі дыялогі наконт самых розных формаў супрацоўніцтва. Але чужаземцы, асабліва калі размова заходзіць пра ўкладанне сродкаў у развіццё, пашырэнне вытворчасці, не жадаюць, не хочуць безаглядна выкідваць, як яны лічаць, ніякія крэдыты, ніякія інвестыцыі.

**— Відаць, праблема ў большай ступені заключаецца ў тым, што вы — дзяржаўнае прадпрыемства?**

— Так.

**— Чаму ж вы тады не акцыяніруецеся?**

— Лічу — і думаю, што ў гэтым са мною згодны і савет прадпрыемства, калектыў усяго аб'яднання, — што час акцыяніравання для нас яшчэ не настаў. І вось чаму. Мы толькі тады можам заставацца гаспадарамі, калі за калектывам застанецца палова акцый. Не меней паловы. Інакшай ніякае акцыяніраванне не на карысць простаму чалавеку, рабочаму, які папярэдняй працай ужо нешта зарабіў, ужо на нешта мае права.

**— Выходзіць, што і вы, баючыся трапіць у вір рынку, баючыся згубіцца ў ім, гатовы застацца на месцы? Вы ж згубіце час...**

У мінулым годзе мы праводзілі работы па акцыяніраванню прадпрыемства ў цэлым па вобласці (на прыкладзе прыватызацыі сельгастэхнікі ва ўсходняй Германіі. Там за 1 месяц вырашылі праблему). Але ў нас яшчэ недасканалыя законы, якія даюць права цывілізавана ўвайсці ў рынак. Ды і не гатовы яшчэ калектыў — ні эканамічна, ні псіхалагічна і нават палітычна.

Мы згодны, гатовы прыватызавацца, але не марш-кідком, а на ўзаемавыгадных умовах з салідным інвестарам.

Акрамя часу можна згубіць і вытворчасць, стабільную арганізацыю, сістэму... Але і пра фактар часу мы таксама думаем. Шукаем магчымасці атрымання дзяржаўнага крэдыту. Хаця б у памеры 800—900 тысяч амерыканскіх долараў. Грошы дапамаглі б нам прасунуцца наперад, дапамаглі б больш сур'ёзна і аўтарытэтна выглядаць перад патэнцыяльнымі замежнымі партнёрамі і развітымі фірмамі на Беларусі.

Ёсць у нас і ідэя, перакананне: беларускі рынак патрабуе больш таннага замежнага аўтамабіля. Хопіць спажыўца насычаць дарагім замежным аўтахламам. «Фіят» — вось машына, даступная беларускаму пакупніку ў большай ступені. Над гэтай праблемай мы працуем ужо 2 гады і неадступныя ў гэтым клопаце.

Яе — фірму «Фіят» усе ведаюць па аўтамашыне «Лада» ў першую чаргу. «Фіят» карыстаецца аўтарытэтам сярод аўтааматараў. З вялікім напружаннем удалося заключыць пагадненне з дылерам «Фіята». Тым самым ажыццёўлены першы этап у перспектыве зборкі іх аўтамабіляў у нашай краіне. Адсюль і нашы ўласныя планы, праекты.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



МІНСКАЕ АБЛАСНОЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА АЎТАМОТАСЕРВІСУ І ГАНДЛЮ

**МІНСКАЕ АБЛАСНОЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА АЎТАМОТАСЕРВІСУ І ГАНДЛЮ ПРАПАНОЎВАЕ ШЫРОКІ СПЕКТР ПАСЛУГ**

***Скідка 5 працэнтаў***

***сапраўдны да 31 снежня 1996 г.***

**Купон сапраўдны па прад'яўленні паштовай квітанцыі на падпіску на газету «Звязда»**

## НАВІНЫ З МАСКВЫ

### КРЫТЫКА... АБАВЯЗКОВАЯ

Цікавы эксперымент па ініцыятыве мэра Масквы Юрыя Лужкова праводзіцца ў маскоўскім урадзе. Цяпер пры падрыхтоўцы найбольш важных пытанняў на пасяджэнні гарадскога ўрада ў лік абавязковых выступоўцаў па асноўнаму дакладу ўключаецца апанент-судакладчык. На гэтую ролю «крытыкана» будуць запрашацца кіраўнікі гарадскіх службаў, вопытныя спецыялісты міністэрстваў, вучоныя.

Пры дапамозе адміністрацыйнага новаўвядзення мэр разлічвае значна павысіць не толькі якасць урадавых рашэнняў, але і адказнасць высокапастаўленых чыноўнікаў.

### ГЕНЕРАЛЬНЫЯ ПРАКУРОРЫ ПРАВЯРАЮЦЬ СВАІХ ВАЕННЫХ КАЛЕГ

Незвычайную аператыўную рэакцыю на шэраг абвінавачанняў грамадскасцю высокапастаўленых чыноўнікаў Міністэрства абароны ў карупцыі праявіла Генеральная пракуратура Расіі. Нядаўна створана спецыяльная камісія па праверцы дзейнасці Галоўнай ваеннай пракуратуры.

Але некаторыя скептычна настроеныя юрысты, спасылаючыся на ведамасныя традыцыі, сцвярджаюць, што аб справах наконт генеральскіх палацаў пад Масквой, якія пабудаваны за кошт дзяржаўных сродкаў, наўрад ці даведаецца шырокая грамадскасць.

### НЕВЕРАГОДНЫЯ ЛІЧБЫ ДЗЯРЖКАМСТАТА РАСІІ

Як снежны камяк, што коціцца з гары, нарастае з кожным месяцам цяга запазычанасць федэральнага і рэгіянальнага бюджэтаў па заработнай плаце расіян. Толькі сума ліпеньскіх недаплат перавысіла чэрвеньскія амаль на 35 працэнтаў. Такога вэрхалу ў Расіі яшчэ не было. Найгоршыя справы ў сацыяльнай сферы. З 34 трыльёнаў рублёў запазычанасці па зарплаце ўсіх катэгорый працоўных Расійскай Федэрацыі восьмая частка прыпадае на работнікаў сацыяльнай сферы.

У сувязі з гэтым стаў вядомы небывалы судовы працэс, які нядаўна пачаўся ў Маскве па ініцыятыве Маскоўскай ваеннай пракуратуры. На лаве падсудных аднаго з міжмуніцыпальных судоў сталіцы — фінансісты Міністэрства абароны, па віне якіх вайскоўцам Маскоўскага гарнізона пастаянна затрымліваецца выплата зарплаты на працягу апошніх паўгода.

### БАДЗЯГ ПАТУРАЦЬ З МАСКВЫ

Рашуча ўзяліся гарадскія ўлады за лячэнне найбольш пачварных сацыяльных балячак. Як вядома, маскоўскія вуліцы, падземныя пераходы літаральна забіты рознымі бадзягамі, жабракамі і тыпамі з адбіткам алкагольнага сіндрому на тварах. Нядаўна мэр сталіцы аддаў распараджэнне стварыць у адным з падмаскоўных пасёлкаў на тэрыторыі былога ваеннага гарадка цэнтр па рэабілітацыі тых, хто па нейкіх прычынах апусціўся «на дно». Тут яны атрымаюць часовы прытулак, неабходную медыцынскую дапамогу. Але перад тым, як прыезджых арганізавана выправадзіць са сталіцы, былым масквічам, якія па нейкіх прычынах страцілі права на жыллё, будзе аказана дапамога ў вырашэнні кватэрных праблем. Пры паўторных выпадках затрымання злосных бадзяг чакае крымінальная адказнасць.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ.**

## ГРОШАЙ НА КАМПЕНСАЦЫЮ ЎКЛАДАЎ ВЕТЭРАНАМ МОЖА І НЕ ХАПІЦЬ

**Згодна з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб кампенсацыі ўкладаў насельніцтва» «Беларусбанк» ажыццяўляе адлаведныя выплаты ветэранам вайны.**

Паводле даных дэпартамента па рабоце з фізічнымі асобамі, АСБ «Беларусбанк», ветэранам і іх наследнікам цяпер залічана на іх рахункі 166,6 млрд. рублёў кампенсацыйных выплат. Нагадаем, што кампенсацыя ўкладаў праводзіцца шляхам павелічэння астатку сродкаў на рахунках у Ашчадным банку па стану на 1 студзеня 1992 г. у 1000 разоў. Па звестках спецыялістаў «Беларусбанка», на разглядзе цяпер знаходзіцца больш як 32 тысячы заяў на кампенсацыю. Усяго ж у аддзяленні банка павінны звярнуцца каля 220 тысяч ветэранаў, якія на працягу 1996—1997 гадоў маюць права атрымаць кампенсацыю па ўкладах.

Выплаты ў аддзяленнях банка вядуцца ў нармальным рабочым парадку. Аднак, на думку дырэктара дэпартамента па рабоце з фізічнымі асобамі АСБ «Беларусбанк» Аляксандра Баркуна, прамой крэдытнай лініі, адкрытай Нацбанкам «Беларусбанку» на суму 500 млрд. рублёў, усім ветэранам можа і не хапіць.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

У Кейптаўне раз'юшаны натоўп мусульманскіх фанатыкаў літаральна разарваў кіраўніка паўднёваафрыканскай наркамафіі Стагі, калі ён прымчаўся на выручку свайму брату, якога заспелі ва ўласным доме. Нехта з натоўпу параніў наркадзялка, затым у яго кінулі бутэльку з гаручым, адагналі прыехаўшых пажарных і працягвалі страляць у дзялка наркабізнесу. Застаецца, аднак, толькі меркаваць, як гэта паўплывала на іншых гандляроў «белай смерцю».

**Асашыэйтэд Прэс.**

Афіцыйная рэзідэнцыя шэфа паліцыі і мытнай службы партугальскага ўладання Аамынь (Макаа) была абрабавана, пакуль галоўны паліцэйскі начальнік з жонкай мірна бавілі час у гасцях. Узломшчыкі, відаць, ведалі, дзе што ляжыць, і хутка зніклі, узяўшы з сабой ювелірныя ўпрыгажэнні, пярсцёнкі і жамчужныя каралі. Гэта ўжо другое абрабаванне асабняка вышэйшага паліцэйскага чыноўніка з таго часу, як менш года таму ён паабяцаў выкараніць злачыннасць на падуладнай яму тэрыторыі.

**Рэйтэр.**

Больш чым сямі тысячам армян, якія з-за эканамічных цяжкасцей аказаліся ў Германіі, трэба збірацца назад. Германскія ўлады мяркуюць, што за апошнія гады эканамічная сітуацыя ў Арменіі значна палепшылася і яе грамадзянам самы час вярнуцца на сваю родную зямлю. Ёсць усе падставы для таго, што іншы пункт гледжання ў разлік не будзе прыняты — урад ФРГ паведаміў эмігрантам аб адведзеным на зборы часе і сваёй гатоўнасці аплаціць усе дарожныя расходы.

**«Известия».**

*ПОГЛЯД*

## З НО-ШПАЙ — СУПРАЦЬ ХВАРОБЫ БОТКІНА, або Ці выратуюць беларускія медыкі свет ад гэтай хваробы...

На думку медыкаў, адно з самых каварных і непрыемных захворванняў — вірусны гепатыт А, у народзе больш вядомы як жаўтуха, ці хвароба Боткіна. Каварства яго заключаецца ў тым, што «падхапіць» гэту хваробу можа любы, бо перадаецца яна бытавым шляхам праз ваду, нямытую садавіну, прадметы ўжытку... Таксама яна мае непрыемную ўласцівасць яшчэ доўга напамінаць аб сабе: на працягу года той, хто перанёс гэту хваробу, вымушаны захоўваць строгую дыету. Ці можна сёння эфектыўна змагацца з гэтым відам віруснага гепатыту?

Менавіта над гэтым пытаннем на працягу пяці гадоў працавалі супрацоўнікі Беларускага навукова-даследчага інстытута эпідэміялогіі і мікрабіялогіі (БелНДІЭМ). І іх намаганні не прапалі марна. Надзейным прафілактычным сродкам па папярэджанню захворвання на вірусны гепатыт А аказалася добра вядомая ўсім но-шпа. У клінічных умовах было вызначана, што гэты лекавы прэпарат валодае антывіруснай актыўнасцю, г. зн не дае інфекцыі развівацца, і захворванне не адбываецца.

Самы небяспечны перыяд у гэтага захворвання — інкубацыйны, які доўжыцца ад 7 да 50 дзён. Менавіта ў гэты час, калі яшчэ няма ніякіх знешніх прымет хваробы, ідзе актыўнае заражэнне акружаючых людзей. А таму, нават пасля шпіталізацыі хворага, за ім застаецца «шлейф» заражаных людзей, якія нічога не падазраюць аб сваім захворванні. Менавіта яны і сталі прадметам пільнай увагі вучоных.

Практычны эксперымент праходзіў на працягу васьмі месяцаў у двух раёнах сталіцы — Кастрычніцкім і Заводскім. Як толькі там рэгістраваўся выпадак захворвання на вірусны гепатыт А, у ачаг выязджалі спецыялісты і ўсіх, хто знаходзіўся ў кантакце з хворым, бралі на ўлік, выяўляючы магчымасць заражэння. Затым патэнцыяльным хворым у якасці прафілактыкі давалі но-шпу. І вынікі ўражвалі.

Як паведаміла старшы навуковы супрацоўнік БелНДІЭМ Святлана Арлова, у Кастрычніцкім раёне г. Мінска ў 15 ачагах былі зарэгістраваны 54 кантактныя асобы, 9 з якіх, як паказалі лабараторныя даследаванні, былі заражаны вірусам. Пасля прыёму но-шпы ніводзін з іх так і не захварэў. У той жа час у 5 кантрольных ачагах, дзе но-шпу не прымалі, з 11 кантактных асоб захварэлі 4 чалавекі, што склала 80 працэнтаў ад агульнай колькасці захварэўшых.

У Заводскім раёне са 105 кантактных асоб у 40 ачагах заражанымі аказаліся 14 чалавек. У выніку, пасля прыёму но-шпы, захварэў толькі адзін чалавек. Але нават у гэтым выпадку захворванне працякала лёгка: жанчына на працягу двух дзён адчувала лёгкае недамаганне і нават не падвяргалася шпіталізацыі.

Як кажуць, лічбы гавораць самі за сябе. Нават калі но-шпа не можа даць поўнай гарантыі выздараўлення, улічваючы адзін выпадак захворвання, усё ж, пагадзіцеся, працэнт абароны вельмі высокі. Беручы пад увагу вынікі эксперымента, здавалася б, самы час радавацца поспеху беларускіх вучоных. Але радавацца, як высвятляецца, пакуль што рана.

Эксперымент яшчэ не завершаны. Уся справа ў тым, што вірусны гепатыт А валодае цыклічнасцю: парыядычна назіраюцца самая высокая і самая нізкая эпідэмічная напружанасць. І, зразумела навуковыя распрацоўкі лепш за ўсё правяраць у час, калі эпідэмічная сітуацыя пагаршаецца, прычым на працягу хаця б двух эпідэмічных сезонаў (у віруснага гепатыта А гэта перыяд з верасня па сакавік). У сувязі з тым, што ў 1997-98 гадах чакаецца рэзкі рост захворвання, знаходка вучоных была б вельмі дарэчы.

Але, як заўсёды, усё ўпіраецца ў грошы. Дакладней, у іх адсутнасць. Для завяршэння доследных работ патрабуецца каля 600 мільёнаў рублёў (у гэту суму ўваходзіць фінансаванне двух эпідсезонаў). Сума быццам бы невялікая. Але ўпраўленне навукі Міністэрства аховы здароўя РБ праграму па прымяненню антывіруснага прэпарата па прафілактыцы віруснага гепатыту А адхіліла, матывуючы сваю адмову скарачэннем аб'ёму фінансавання на навуковыя распрацоўкі. Таксама быў выстаўлены наступны аргумент: у сувязі з тым, што ношпа — лекавы прэпарат імпартнай вытворчасці, неабходна згода на эксперымент прадстаўнікоў фірмы. Але тут якраз праблем няма. Папярэдняя згода вытворцаў но-шпы ўжо атрымана: у сувязі з тым, што Беларусь закупляе гэты прэпарат, ніхто не збіраецца забараняць выкарыстоўваць яго для гэтых мэтаў.

Для чалавека, далёкага ад медыцыны, можа здацца цікавым той факт, што ў свеце існуе вакцына (яе вытворца — бельгійская фірма), якая засцерагае ад віруснага гепатыту А. Але ў нашай краіне вы не знойдзеце яе ні ў адной медыцынскай установе, таму што кошт яе — 29 долараў за 1 ампулу — для айчыннай медыцыны недаступны. Затое зусім даступна выглядае на гэтым фоне магчымасць лячэння хваробы пры дапамозе но-шпы: для курса лячэння неабходна ўсяго 14—20 таблетак. Такім чынам, пры дапамозе ўсяго адной упакоўкі лякарства (цана ста таблетак вагаецца ў межах 41—43 тыс. руб.) можна вылечыць цэлую сям'ю. Прычым, тут дарэчы будзе ўпамянуць, што пры захворванні на вірусны гепатыт А для змяншэння нагрузкі на печань захапляцца медыкаментозным лячэннем проціпаказана. А но-шпа — зусім бясшкодны прэпарат, створаны на аснове лекавых траў. Такім чынам, як кажуць, усе плюсы працягу эксперымента ў наяўнасці, бо папярэднія яго даныя абнадзейваюць.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## У ЛІТВЕ КЛЯШЧА НЕ БАІЦЦА ТОЙ, У КАГО ЁСЦЬ 125 ДОЛАРАЎ НА ПРЫШЧЭПКУ

Жыхары Літвы занепакоены ўсё больш частымі выпадкамі захворвання на клешчавы энцэфаліт, які называецца яшчэ запаленнем мозгу. Паводле даных медыцынскіх службаў, штогод, пачынаючы з 1993-га, колькасць людзей, якія заразіліся гэтай небяспечнай віруснай інфекцыяй, узрастае ў Літве на 100 чалавек. А сёлета іх налічваецца ўжо 60. Трэба ўлічыць, што лічба гэта можа значна павялічыцца, таму што найбольш актыўнымі кляшчы становяцца са жніўня па кастрычнік. Прычым, на думку ўрачоў, хваробу выклікае не толькі непасрэдны ўкус кляшча, але і ўжыванне малака каровы, якую ён укусіў.

Небяспека хваробы ў тым, што многія пасля яе лячэння застаюцца інвалідамі на ўсё жыццё. Зарэгістраваны ў Літве і выпадак смяротнага зыходу. Характэрна, што пацярпеў урач, які вельмі позна звярнуў увагу на ўкус кляшча.

Каб папярэдзіць пашырэнне эпідэміі, службы аховы здароўя Літвы разгарнулі прафілактычную кампанію. У сродках масавай інфармацыі грамадзян заклікаюць зрабіць прафілактычныя прышчэпкі. Праўда, кошт іх даволі высокі — 500 літаў або 125 долараў. Такая цана па кішэні толькі багатым, а тыя, у каго няма неабходных грашовых сродкаў, вымушаны адмовіцца ад паездкі ў лес, адпачынку ля возера, а многія баяцца нават працаваць у сваіх садах, размешчаных недалёка ад лесу.

**Вільнюс. Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БЕЛТА.**



*ФУТБОЛ. КУБАК УЕФА*

## ДЫНАМАЎЦЫ РЫХТУЮЦЬ РАШУЧЫ КІДОК НА БЕРАГІ БАСФОРА І ПЛАН АДБІЦЦЯ АТАК ШВЕДАЎ

Кваліфікацыйныя матчы розыгрышу Кубка УЕФА, першыя з якіх прайшлі ў мінулы аўторак, абедзве беларускія каманды — «Дынама» (Мінск) і «Дынама-93» праводзілі пад знакам перамог у 1/8 фіналу Кубка Беларусі. Праўда, гэты фактар наўрад ці мог паўплываць на вынікі кубкавых матчаў, да таго ж сапернікі былі не тыя.

Чэмпіёны рэспублікі прымалі дома турэцкі «Бешыкташ». На жаль, «родныя сцэны» для дынамаўцаў чарговы раз былі вынесены за межы сталіцы — на гарадскі стадыён Маладзечна, што давала гасцям магчымасць разлічваць на «нейтральнасць» поля. На дапамогу любімай камандзе прыехалі некалькі дзесяткаў балельшчыкаў і журналістаў.

Падначаленыя Івана Шчокіна прыбылі ў Маладзечна за дзень да гульні, а вось туркі прыехалі на сустрэчу прама з мінскай гасцініцы «Фестфалія». У запасе ў іх было некалькі гадзін, каб азнаёміцца з адметнасцямі мясцовага стадыёна, што яны з поспехам і зрабілі.

Прагнозаў перад паядынкам было няшмат... Многія спартыўныя спецыялісты схіляліся да таго, што маладыя дынамаўцы не змогуць як след «прыціснуць» вопытнага саперніка — дзевяцікратнага чэмпіёна Турцыі і чатырохразовага ўладальніка кубка краіны, і таму найбольш рэальны вынік — нічыя. Да таго ж вельмі нячаста начным клубам у кубкавых сустрэчах трапляюцца футбалісты з берагоў Басфора. Праўда, калісьці мінскія дынамаўцы саюзнага варыянта змаглі ўдала згуляць супраць турэцкага «Трабзонспора». Магчыма, гэты фактар і спадарожнічаў удачы нашых футбалістаў. Два прыгожыя галы ўзыходзячай зоркі «Дынама» Уладзіміра Макоўскага ў многім прадвызначылі канчатковы вынік матча. Агульную карціну гульні значна змазаў гол гасцей, які поўнасцю на сумленні галкіпера Віталя Варывончыка.

Да поўнага задавальнення не хапіла трэцяга гола, хоць пасылкі для яго і былі. Аднак у адным выпадку галоўны арбітр матча швейцарац Андрэас Шлюхер не залічыў мяч Паўла Шарова, а ў другім — «зажыліў» пенальці, палічыўшы, відаць, што і перамога з лікам 2:1 — для дынамаўцаў гэта дастаткова.

Матч у адказ пройдзе ў Стамбуле 20 жніўня.

Нядрэнныя шанцы прайсці далей займела «Дынама-93» пасля гульні з «Хельсінгборгам». Падначаленыя Віктара Сокала, ці «сакаляты», як іх ласкава называюць балельшчыкі, у шведскім горадзе Хельсінгборгу, на стадыёне «Алімпія», зрабілі важкую заяўку на перамогу па выніках дзвюх сустрэч.

Першы ж раунд сапернікаў завяршыўся ўнічыю — 1:1. Прычым мінчане вялі ў другім тайме 1:0 (гол на рахунку Арлоўскага), аднак утрымаць пераможны лік не змаглі. І ўсё ж гэта ўжо поспех дынамаўцаў.

Па якому сцэнарыю «сакала» збіраюцца граміць шведаў дома пакуль невядома. Адказ на гэта пытанне можна будзе атрымаць таксама праз два тыдні.

**Вось вынікі астатніх матчаў кваліфікацыйнага турніру Кубка УЕФА.**

Краацыя (Загрэб, Харватыя) — Спартак (Масква) — 3:1
Ротар (Валгаград) — Генгам (Францыя) — 2:1
Акранес (Ісландыя) — ЦСКА (Масква) — 0:2
Хайдук (Харватыя) — Тарпеда (Масква, Расія) — 1:0
Арау (Швейцарыя) — Лантана (Эстонія) — 4:0
ХІК (Фінляндыя) — Чарнаморац (Адэса, Украіна) — 2:2
Казіно (Аўстрыя) — Ваяводзіна (Югаславія) — 2:0
Анартосіс (Кіпр) — Ксамакс (Швейцарыя) — 1:2
Сігма (Чэхія) — Ґутнік (Польшча) — 1:0
Славія (Балгарыя) — Ціроль (Аўстрыя) — 1:1
Слован (Славакія) — Трабзонспор (Турцыя) — 2:1
Сконта (Латвія) — Мальмё (Швецыя) — 0:3
Бейтар (Ізраіль) — Бодэ-Глімт (Нарвегія) — 1:5

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**



**СЁННЯ**

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.34 | 20.56 | 15.22 |
| Віцебск – | 5.19 | 20.51 | 15.32 |
| Магілёў – | 5.23 | 20.45 | 15.22 |
| Гомель – | 5.27 | 20.35 | 15.08 |
| Гродна – | 5.51 | 21.08 | 15.17 |
| Брэст – | 5.56 | 21.05 | 15.09 |

### МЕСЯЦ

**Апошняя квадра 6 жніўня.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Маісея, Параскевы**
**К. Дамініка, Цапрыяна**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі ў паўднёва-ўсходніх раёнах дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 16—18, Магілёве, Мінску — 18—20, Гомелі — 19—21, Гродне — 20—22, Брэсце — 18—23 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак надвор'е істотна не зменіцца. Тэмпература 9-га ўначы — 7—12, удзень — 18—23; 10-га ўначы — 9—14, удзень — 20—25 градусаў цяпла.

# ПРА ПАВАЛЕНУЮ ЛІПУ, КРАДЗЕНЫ ГАРОХ І ПРАКІСЛЫЯ ПАРЭЧКІ

СТЫХІЯ СЁЛЕТА, як ніколі, нарабіла ў ваколіцы бяды. У суседнім раёне, зусім недалёка ад нас, маланка забіла на бульбяным полі дзвюх цётак. У суседняй вёсцы ўсё тая ж нявінная з выгляду маланка спаліла хлеў, праўда, на шчасце, скаціну з яго выгнаць паспелі, а на хутары, што стаіць наводдаль, разам з хлявом, кажуць, згарэлі і авечкі...

●

Перад купальскай ноччу над нашай вёскай лютавала сапраўдная бура. Ля самай хаты разадрала яна адну з сямі старых таўшчэзных ліп. Яны ўсе як адна гнілыя і дуплаватыя (невядомы прадзед пасадзіў іх, пэўна, усе разам гадоў сто таму). Як толькі налятае моцны вецер, дрэвы крэкчуць і стогнуць, нібы скардзяцца, што няма ўжо моцы стаяць. У такія ветраныя ночы мая маці не спіць, гэтаксама як і суседзі: яны спалохана глядзяць у вокны, дзе матляюцца ў чорным небе магутныя, але — яны ведаюць — такія слабыя шаты, і са страхам чакаюць, што адно з дрэў не вытрымае, паваліцца... Спілаваць дрэвы сваімі сіламі немагчыма: занадта цесна вакол стаяць хаты і прыбудовы. Застаецца толькі чакаць і баяцца... І вось адна ліпа не вытрымала: лягла ўпоперак дарогі, пакрышыўшы плот, але, дзякуй Богу, не закрануўшы ні хаты, ні хлявоў. Суседцы, у садзе якой гэта ламачына расла, дроў будзе на цэлую зіму. Мы засталіся без плота, а ўся вёска — без святла.

Зрэшты, мо яно і добра, што павалілася тая злашчасная ліпа. Узяўшыся рамантаваць электралінію, раптам заўважылі, што драўляныя слупы, на якіх трымаюцца правады, зусім струхнелі. Было вырашана правесці новую лінію. Вяскоўцы сустрэлі гэту ідэю без асаблівага захаплення, але дружна кінуліся нарыхтоўваць для сваіх гаспадарак алюмініевы дрот, па-зразаны са слупоў, які нічыйна ляжаў уздоўж вуліцы... Спачатку не было святла толькі ў той частцы, дзе парваліся правады. Кабеты занеслі да цёткі Сабіны (яе хата самая бліжэйшая, у якой было святло) каляровы тэлевізар, і ўсім кагалам хадзілі глядзець новы бразільскі серыял. «Новая ахвяра» называецца. Цяпер адключылі электрычнасць па ўсёй вёсцы. Цёткі гаруюць. Моладзь радуецца: цемра, як вядома, — яе сябар.

Укапалі новыя цэментавыя слупы. Уздоўж вуліцы амаль паўсюдна ляжаць спілаваныя дрэвы: яны перашкаджалі ставіць слупы і нацягваць правады. Ляжыць ля суседняй хаты клён, за якім так зручна было прыцішыцца, калі гулялі ў хованкі. Ляжыць красуня-бяроза, па якой зімой заўжды можна было пазнаць, ці гараць дровы ў печцы: праз празрысты дым яе чорныя галінкі ледзь-ледзь трымцелі, а вясной — упэўніцца, што сапраўды вясна: з-за даху была відаць толькі яе верхавіна, нібы прыкрытая танюткай зялёнай наміткай, а на яе заўсёды садзіўся першы шпак... Валячы бярозу, зруйнавалі ўвесь плот, што заставаўся: няправільна падрэзалі, дрэва падала прама на хату, і, каб не было бяды, скіравалі на плот. Маці радавалася: брыгадзір абяцаў зрабіць новы. Прайшло тры тыдні, новага плота няма, каровы, ідучы з поля, лезуць у двор, радасць пакрысе затухае...

Ледзь удалося ўратаваць грушу ў агародзе. Яе таксама хацелі спілаваць (маўляў, будзе замыкаць правады, што ідуць да хаты). Але маці такі ўгаварыла рабочых не спілоўваць. Дыялог адбываўся прыкладна такі:

— Што, кабетка, смачныя на ёй ігрушы?

— Ой, хлопчыкі, смачныя. (Ігрушы сапраўды вельмі смачныя, хоць і дзічкі, але не гнілушкі, а сакаўныя і салодкія. — **А. Л.**).

— Ну то і праўда, шкада грушу...

— Шкада, хлопчыкі, ой шкада. А ці нельга што-небудзь прыдумаць?

— Ну, мы можам замест правадоў ізаляваны кабель нацягнуць, але ён наш, уласны, таму плаціць за яго трэба... Літр гарэлкі...

Карацей, ігрушу маці ўратавала...

Старыя ліпы па-ранейшаму стаяць і стогнуць — яны праводку весці не перашкаджалі...

●

Самая пара збіраць гарох. Звычайны, кармавы. Саўгасны. Раней ірваць яго хадзіла толькі дзятва: паласавацца, а яшчэ больш — пагуляць з небяспекай. Нібыта спакойна сядзіш сярод поля і абрываеш зялёныя струкі, а сам увесь напружаны, гатовы, як толькі пакажацца наводдаль сіні вазок брыгадзіра ці загудзе дзе-небудзь паблізу «казёл» дырэктара, кінуцца ў бліжэйшы хмызняк і сядзець там, пакуль пагроза быць злоўленым не знікне... Гаспадыні і глядзець на такі гарох не хацелі. Навошта мудрыць нешта з кармавым, калі ў магазіне за сорак капеек — гатовы, марынаваны, мазгавых сартоў... Колькі гэты марынаваны каштуе зараз — лепш не пісаць. Вось і сталі гаспадыні адна ў адной перапісваць рэцэпты, як самім закатаць той, кармавы. І сталі на саўгаснае поле выходзіць з торбамі цэлыя сем'і. Збіраць, абрываць, а яшчэ больш — таптаць. Ды так, што ні адзін камбайн не дасць рады... Зрэдку (звычайна ў выхадныя) міліцыя наладжвае аблаву. Каму не пашанцуе — пападзецца і будзе мець непрыемнасці. Маштабы гэтых непрыемнасцей залежаць ад колькасці нарванага гароху і ад ступені знаёмства з участковым інспектарам... Але такіх аблаў вяскоўцы не вельмі баяцца: амаль у кожнай хаце стаяць зараз перавернутыя закатаныя слоікі, у якіх — марынаваны гарошак. Кармавы. Саўгасны...

●

Нядаўна прайшлася па наваколлі «парэчкавая» ліхаманка. Вельмі добра родзяць у нашых садах чырвоныя парэчкі. Руплівыя гаспадары маюць па пятнаццаць — дваццаць вялікіх кустоў. Што сабе, што сваякам, а больш — на продаж. Ды толькі прадаваць у горад надта не наездзішся. Раней амаль усюды працавалі нарыхтоўчыя пункты, якія збіралі ў насельніцтва садавіну, ягады, грыбы. Працавалі амаль усё лета, плацячы вяскоўцам грошы меншыя, чым на базары, але на месцы. Сёлета парэчкі таксама прымалі. Па шэсць тысяч за кілаграм. Прымалі ўсяго тыдзень. Вяскоўцы кінуліся здаваць, выстраіўшыся ў доўгую чаргу.

Парэчкі — ягады далікатныя. Пастаяўшы дзень у цэлафанавым мяшку ці выварцы, яны пачынаюць кіснуць. Гаспадары, вядома, хвалююцца. І тут з'яўляецца нехта на веласіпедзе і трубным голасам паведамляе, што ў суседняй вёсцы таксама прымаюць і чаргі там амаль няма... Тыя, хто стаіць «у хвасце», кідаюцца да падвод і, пасцёбваючы коней, імчаць у тую суседнюю вёску. Так можа працягвацца бясконца. І ўсё ж пад вечар можна ўбачыць якога-небудзь нешчаслівуца, які клянучы ўсё на свеце і лаючыся брыдкімі словамі, высыпае на абочыну скіслыя за дзень няздадзеныя парэчкі...

●

Маці праводзіць мяне на аўтобус. Стаім на прыпынку, чакаем. Падыходзіць дзядзька Антон. Размаўляюць з маці спачатку пра здароўе, потым пра тое, чым жыве ўся вёска: калі, нарэшце, правядуць электрычнасць. Маці выказвае здзіўленне, што правады не вядуць на кароўнік, які яшчэ гады чатыры таму дзейнічаў. «Ды там ужо нічога не засталося, — гаворыць дзядзька. — Усё пакралі, што можна было. Сцены толькі таму стаяць, што з вялікіх блокаў зробленыя. Каб з крыху меншых — і тыя расцягнулі б. Крыўдна, будавалі ўсё — думалі: глядзець і радавацца будзем...»

Вочы ў дзядзькі Антона неяк дзіўна блішчэлі... А можа, мне здалося?..

●

Едзем на аўтобусе ў горад. Раптам ён спыняецца на ўзбочыне. Пасажыры здзіўлена назіраюць за вадзіцелем. А ён выходзіць з кабіны, дастае аднекуль з-пад аўтобуса звычайную касу, бярэ вялікі мяшок-«кітаец» і ідзе касіць канюшыну каля дарогі. Пэўна, дома разводзіць трусоў.

...І хочацца абурыцца, і крыкнуць, што трэба ехаць, бо не паспею на электрычку, і не крычыцца: заварожана, як і ўсе мае спадарожнікі, гляджу, як паблісквае на сонцы, кладзецца росная бліскучая трава. І хоць і не чуваць, як яно там, за акном, яскрава ўяўляеш, як весела свішча каса, спяваючы простую, а таму вечную песню жыцця.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

# СПРАДВЕЧНЫ КАНФЛІКТ

**Сярод сямейных скандалаў класічнымі з'яўляюцца сваркі паміж мужам і жонкай, але гэтыя канфлікты даволі часта не зацяжныя. Успыхнуць і хутка гаснуць. Развіваюцца па вядомаму сцэнарыю: спачатку б'юцца, затым мілуюцца. Праўда, гэта ў тых выпадках, калі шлюб захоўваецца, а інакш развод.**

**Але самае вялікае процістаянне ўзнікае паміж нявесткай і свякрухай, цешчай і зяцем. Тут нянавісць, калі ўжо з'явілася, то, як правіла, назаўсёды. І што цікава: непрыязнасць гэтая, як і каханне, часта бывае з першага пагляду.**

І гэта не выпадкова. Маці глядзіць на сваё дзіця іншымі вачыма, чым астатнія. І, як правіла, пераацэньвае свайго сына ці дачку. За гэтую несправядлівасць зяць ці нявестка плацяць той жа манетай.

Пасля амаль дваццаці гадоў жыцця з жонкай Андрэй С. вырашыў развесціся. Знаёмыя здзівіліся. Быццам бы і прычыны не было. На ўсе роспыты мужчына адказваў:

— Не хачу жыць з цешчай!

Нічога нельга было зразумець, бо цешча Андрэя жыла з дачкою на другім канцы горада.

— Чым больш старэе, тым больш на цешчу становіцца падобнай, нават есць, як маці, — тлумачыў Андрэй.

Гэты выпадак мае налёт бытавога гумару, але сустракаюцца і драматычныя развязкі.

З нявесткаю Ходарыха асабліва не цырымонілася. Калі тая спрабавала праявіць ініцыятыву ці настаяць на сваім, то свякроў ставіла нявестку на месца сваім любым выслоўем: «А пацалуй ты мяне...», — гаварыла Ходарыха і паказвала, куды яе трэба пацалаваць. Суседкі часам сарамацілі жанчыну за гэта, але яна зноў жа адказвала:

— Невялікая пані. Прыйшла на ўсё гатовае.

Ішоў час. Памёр муж Ходарыхі, ціхі, рахманы чалавек. Свякроў прыгорбілася, але нявестцы не ўступала. Што зрабіць, як сказаць — ведала толькі яна. Сын працаваў на будоўлі, нявестка — на ферме, унучкі-блізняты ў горадзе вучацца, вось Ходарыха і гаспадарыць. Каровы, свінні, гусі — хвіліны вольнай няма. Жанчына сябе не шкадуе і нявестцы дыхнуць не дае.

Неяк увечары зайшла нявестка ў хлеў, а свякроў вылезшага вепрука стараецца загнаць у загарадзь. Ходарыха лае кабана і нявестку, што тая не вельмі ўвішная. Стала яна піхаць вепрука ў варотцы, войкнула і асела на гной. Нявестка паглядзела, як свякроў дрыгае нагамі, і пайшла званіць у раён, выклікаць «хуткую дапамогу».

Дактары выявілі ў старой інсульт. Патрымалі крыху ў бальніцы і адправілі дамоў. У Ходарыхі адняло мову, рукі і ногі. Ляжыць яна на ложку і глядзіць у адну кропку, кудысьці ў куток. Апетыт у Хадорыхі добры, і страўнік збояў не дае. Нявестка выцягне з-пад свякрухі цырату ды на твар ёй.

— На, цалуй і нюхай!

Тая толькі галавой круціць ды ротам паветра хапае. Сварыцца ці што?

А калі муж ад'ехаў з брыгадай будаваць чарнобыльцам дамы, нявестка зачыніла дзверы ў пакой свякрухі і заглянула туды толькі праз тыдзень. Схуднелая Ходарыха глядзела на дзверы застылымі вачыма.

Фельчарка з мясцовага медпункта канстатавала смерць і выдала даведку. Муж таксама нічога не сказаў. Выбару ў паралізаваных няма. Гэта адбылося ў адной з вёсак Ганцавіцкага раёна. Было яно ўсё менавіта так ці крыху інакш, у прынцыпе нічога не мяняе. Людзі на вёсцы ведаюць усё ці амаль усё.

Такія канфлікты здараюцца амаль заўсёды ў сем'ях, калі маладыя і бацькі жывуць разам. Дзве сям'і ў хаце і спакой — гэта выключэнне. Калі пасля вяселля маладыя адыходзяць, то шлюб захоўваецца намнога часцей. Рэдка бывае, калі пад пільным паглядам цешчы ці свекрыві маладыя жывуць у згодзе.

У краінах Захаду дзеці, якім мінула дваццаць гадоў, як правіла, пакідаюць бацькоўскі дом. Нашы людзі больш сентыментальныя і бедныя. І апошні фактар больш важны.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

*КРЫК ДУШЫ*

# Я НІЧОГА НЕ ПРАШУ, АЛЕ НІЧОГА І НЕ АТРЫМЛІВАЮ...

НЕ ВЕДАЮ, што менавіта, дарагая рэдакцыя, прымусіла мяне ўзяць гэты аркуш паперы і ручку: адчай, крыўда на мясцовую ўладу, а канкрэтна на кіраўніцтва калгаса, ці, бадай, на ўсё жыццё.

Адразу скажу, што прасіць ні ў кога нічога я не збіраюся, проста хачу зразумець, запытаць: што ж гэта робіцца, людзі?! Як жа нам жыць?

Але паспрабую выказацца па парадку. Крыху пра сваю сям'ю. Яна ў мяне вялікая: пяцёра дзяцей і нас двое. Позна ўжо гаварыць пра тое, што часцей за ўсё даводзіцца чуць: навошта табе было столькі дзяцей? Хоць і грэх такое казаць, але так, каб я ведала, што іх чакае, напэўна, апошніх дваіх не нарадзіла б...

Паўтараю, я нічога не прашу, але як зразумець тое, што не магу атрымаць, што абяцана, гарантавана дзяржавай? Я маю на ўвазе дапамогу на дзяцей — мы яе не атрымалі яшчэ за май, а ў нашым калгасе імя Чапаева наогул не выдавалі заработную плату яшчэ за красавік і невядома калі людзі яе атрымаюць. Грошы за ўраджай выбраны авансам: на ГЗМ, запчасткі і г. д.

Хутка верасень. У мяне двое школьнікаў і, па праўдзе сказаць, я не ведаю, ці пойдуць яны ў школу. Мне няма за што купіць ім школьныя прылады, адзенне, абутак. Не падумайце, што мае дзеці ходзяць апранутыя горш за іншых. Не. Але адна справа — дома, а іншая — у школе. Нават калі мы і атрымаем дапамогу за май-чэрвень, я нічога не змагу купіць. Трэба ж аддаць даўгі за хлеб, малако, якое кожны дзень бяру дзецям у суседкі (дзякуй ёй вялікі, што хоць дае яго ў доўг). Без малака ж дзецям, самі разумееце, ніяк нельга, асабліва калі яны ў мяне ва ўзросце ад 1,5 да 9 гадоў.

Скажаце, можна і сваю карову трымаць? Так, я згодна. Звярталася да старшыні калгаса, каб дазволіў купіць у калгасе карову ў крэдыт. Дакладна ведаю, што такое практыкуецца ў многіх гаспадарках. Просты арыфметычны разлік: дапамогі на дзяцей атрымліваю ў месяц дзесьці каля 670(!) тысяч. Няхай бы працэнтаў 50 утрымлівалі, і за год з невялікім я разлічылася б. За малако — 3 л кожны дзень — я плачу у месяц 300.000 рублёў... Але ж у адказ пачула: «Збірайце грошы (адкуль???), можа, восенню і прададзім вам за поўны кошт цялушку». Так, я разумею, кароў не хапае ў гаспадарцы, але ж можна зрабіць выключэнне, тым больш, што я ніколі не звярталася па дапамогу. Праўда, нядаўна звярнулася другі раз, і зноў — адмова. Справа ў тым, што мы хацелі купіць цялушку (праўда, малака ад яе мы дачакаемся толькі праз 1,5 года) у другой вёсцы, кіламетраў за 30. Вось я і пайшла да старшыні, каб дазволіў выпісаць машыну (за грошы, вядома) на якую гадзіну і з'ездзіць па яе. Што ж пачула ў адказ? «Мы рыхтуем машыны да ўборачнай, якая хутка пачнецца, і машын нікому не даём...»

Мабыць, я не ўмею прасіць? Альбо не ўмею крычаць, даказваць свае правы? Мажліва, варта было расплакацца прама там, у дыспетчарскай, а не тут, дома, перад дзецьмі, дзе на іх пытанне: «Чаго ты, мама?..» Я нічога не змагла адказаць? Да каго звяртацца? У каго прасіць якой дапамогі?

Вось такое становішча. Безвыходнасць? Бадай што так.

Прабачце, калі ласка, што адрываю вас ад больш важных праблем, але... Што рабіць?

І яшчэ. Шмат даводзілася чытаць пра льготы мнагадзетным сем'ям, але ў нашай сям'і гэтага не адчуваецца. За святло, тэлефон, брыкет, дровы, газ мы плацім 100 працэнтаў.

Ну вось цяпер усё. Далібог, аж на душы палягчэла, што змагла выказацца. Усяго вам добрага.

**Раіса ТОЛКАЧ,**
*в. Зацітава Слабада,*
*Пухавіцкі раён.*




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

**АД АДДЗЕЛА ПІСЬМАЎ**

*Як высветлілася ў час тэлефоннай размовы, Раіса Іванаўна чатыры гады працавала загадчыцай малочнай фермы ў той жа в. Зацітава Слабада. А затым, як пайшлі дзеці, давялося пакінуць тут работу. Не працуе ў калгасе і муж з-за недарэчнага выпадку з крадзяжом грэчкі і мукі.*

*Сапраўды, як пацвердзіў і старшыня калгаса І. Паўловіч, з-за дэфіцыту грошай гаспадарка своечасова не змагла пералічыць іх у сацыяльны фонд, таму райсабес у сваю чаргу з мая не выдзяляў дапамогу на дзяцей. Аднак гэта пытанне ўжо вырашана станоўча. На гэтым тыдні часткова будзе выплачана і зарплата, якой калгаснікі не атрымлівалі тры месяцы.*

*— Што датычыць продажу каровы ў крэдыт, — паведаміў Іван Аляксандравіч, — то з-за нешматлікага пагалоўя нікому, нават калгаснікам, кароў у крэдыт не прадаём. Раісе Іванаўне прапанавана збіраць грошы, і ўвосень прададзім ёй пяршачку за поўны кошт, бо ў калгасе ні яна, ні муж не працуюць. А вось аб выдзяленні транспарту, каб прывезці купленую цялушку, ніякай размовы не было. Хоць аўтамашын у гаспадарцы і мала, але мы пайшлі б насустрач.*

***Тое, што гэтай мнагадзетнай сям'і карова патрэбна, — адназначна. Узнікае толькі нямалаважнае пытанне: ці зможа яна сабраць 3,5—4 мільёны рублёў, каб купіць сабе кароўку?***

З НАГОДЫ

## Валерый КАНЧАТАЎ:

# «СЛУЖБА — НЕ МЁД, АЛЕ КАВАЛКАМ ХЛЕБА ПРЫВАБЛІВАЕ»

*Адбыўся чарговы выпуск лейтэнантаў, падрыхтаваных у Магілёўскай школе міліцыі — старэйшай навучальнай установе сістэмы Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі. Праз год яна адзначыць сваё 50-годдзе, а стваралася як адзіная ў былым СССР школа транспартнай міліцыі. Курсанты гэтай школы забяспечвалі, пачынаючы з 1951 года, ахову многіх высокіх мерапрыемстваў — ад святаў авіяцыі ў Тушыне, на якіх любіў прысутнічаць Сталін, да партыйных з'ездаў. На ўсіх транспартных артэрыях — у паветры, на вадзе і на чыгунцы — нясуць службу ў розных кутках СНД выпускнікі менавіта гэтай школы. Таму прадстаўніцтва гасцей, якім суправаджаўся сёлетні выпуск, уражвае геаграфіяй: Віцебск, Мазыр, была нават дэлегацыя са Славакіі. Ну а пра сваіх, магілёўскіх, няма чаго і казаць. Кіраўнікі абласнога Савета і аблвыканкома, гарадской і раённых адміністрацый, грамадскіх арганізацый — усе, можна сказаць, пабывалі на ўрачыстай цырымоніі. Прыбылі не з пустымі рукамі. І выкладчыкі, і выхаванцы атрымалі прэміі і памятныя падарункі. Згадзіцеся, такая шчодрасць уладаў і грамадскасці больш чым адметная, калі ўлічыць эканамічныя цяжкасці. Таму наш карэспандэнт перш за ўсё пацікавіўся ў начальніка школы, палкоўніка Валерыя Канчатава, з чым гэты альтруізм звязаны.*

— З горадам у нас даўнія партнёрскія сувязі, — адказаў Валерый Міхайлавіч. — Мы хоць і з'яўляемся сабой навучальную ўстанову, але ўдзельнічаем у нясенні службы па ахове правапарадку. Да таго ж сёлетні выпуск супаў па часе з 55-годдзем абароны Магілёва, у якой праявіў мужнасць і гераізм батальён міліцыі. Так што падставы для ўдзячнасці магіляўчан ёсць.

**— Я чуў, што праблемы з камплектаваннем школы не існуе.**

— Ведаеце, куды сёлета самы вялікі конкурс? У міліцэйскую акадэмію. 10 чалавек на месца. У нас крыху менш, але ў тым і цяжкасць, каб адабраць лепшых.

**— Чым жа так прываблівае моладзь міліцэйскі профіль?**

— Па-першае, рамантызмам. Відаць, зрабілі сваю справу шматлікія дэтэктыўныя стужкі, якія запаланілі экраны. Па-другое, — хітрыць не трэба — прагматычны інтарэс. У нас трохразовае бясплатнае харчаванне, абмундзіраванне ды плюс стыпендыя. Які студэнт можа пахваліцца такім жыццём, калі не трэба думаць пра галодны страўнік і дзіравыя чаравікі? Дадам сюды тэрмін навучання: два гады. За гэты час юнак (дзяўчат не прымаем) атрымлівае сярэднюю юрыдычную адукацыю і афіцэрскае званне. У 19 гадоў малады чалавек ужо лейтэнант.

**— Так хутка?**

— Палову слухачоў школы набіраем з учарашніх школьнікаў. Так што нічога дзіўнага.

**— Здагадваюся, якія патрабаванні да абітурыентаў.**

— Звычайныя. Як і пры паступленні, скажам, у тэхнікум. З адной толькі істотнай акалічнасцю — паглыбленай медыцынскай камісіяй. Не ўдаючыся ў падрабязнасці, скажу толькі, што да нас можа паступіць чалавек ростам не ніжэй за 170 сантыметраў.

**— І ні на міліметр меней?**

— Рэдкія выключэнні бываюць. Для асоб з выдатнымі здольнасцямі. Напрыклад, майстроў спорту. Аднак для іх залічэння патрэбен загад міністра.

Назаву і яшчэ прычыну, па якой да нас касяком пайшла моладзь, — магчымасць гарантаванага працаўладкавання, чаго грамадзянскія ВНУ і тэхнікумы цяпер абяцаць не могуць. Наш курсант працуе па месяцу пасля кожнага семестра ў органах УС, а напярэдадні выпускных экзаменаў — два месяцы на той пасадзе, куды будзе размеркаваны.

**— Вас паслухаць — не служба, а мёд.**

— Чаму? Праблем, як і ўсюды, хапае. Былі б грошы. Але на карку ў дзяржавы стараемся па магчымасці не сядзець. Пабудавалі, напрыклад, цір. Не нейкую там прымітыўную траншэю, а 100-метровы бункер для стральбы з аўтамата па мішэнях, якія рухаюцца. Узвялі гэты аб'ект так званым гаспадарчым спосабам. Цяпер думаем, як бы аналагічным чынам займець уласную пральню. Бо за 600 камплектаў бялізны трэба плаціць нямала, сам завязі і сам прывязі. Дабаўляем да стала курсантаў са сваіх рэсурсаў — падсобнай гаспадаркі. Трымаем цяпліцу, бычкоў, свіней і нават курэй-нясушак. Частку яек нават прадалі гандлёваму цэнтру «Крыніца». Якая-ніякая, а ўсё ж капейка.

З выпускнікамі мы пагаварылі таксама. Ні крыўды, ні дрэнных успамінаў. Што ж, можна парадавацца за новае міліцэйскае папаўненне.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

ПОГЛЯД

## Пітэр БЕРН:

# «МЕХАНІЗМ ФІНАНСАВАННЯ САМЫХ РОЗНЫХ ПРАЕКТАЎ ФОНДАМ СОРАСА ЎШЧЫЛЬНУЮ ЗВЯЗАНЫ З СІТУАЦЫЯЙ І ПЕРАМЕНАМІ Ў КРАІНЕ...»

***Наўрад ці трэба лішні раз тлумачыць чытачу, хто ж такі ёсць пан Сорас, што ж гэта за арганізацыя — Беларускі фонд Сораса. Сказана, напісана пра гэтага вядомага фінансіста і філантропа, пра яго дзейнасць, у тым ліку — і ў нашай краіне, шмат. Часам газеты, радыё (па Беларускім тэлебачанні, прызнацца, аб гэтым не чуў) пляжаць дзейнасць Беларускага фонду Сораса ўшчэнт. Пачынаюць з таго, што нутро яго, душа і сэрца, іншыя патаемныя органы, адкрытыя хіба што толькі для палітычнай флюараграфіі. У меркаваннях такога роду, на якія самі «агенты імперыялізму» ўжо не адказваюць і не рэагуюць, на арэхі дастаецца ўсім. Абавязкова — людзям, якія маюць ад фонду матэрыяльную падтрымку, якія ўдзельнічаюць у дзейнасці БФС. Баючыся таксама пачуць папрокі ў заангажыраванасці і нейкіх сімпатыях да чужаземнай арганізацыі (і ўсё ж, каюся, сімпатыі — ёсць. Прычына простая — здзіўляе тое, з якой настойлівасцю БФС выдзяляе грошы на падтрымку ўсяго новага і цікавага ў навуцы, культуры, усяго, чым павінна была б ужо ўчора і тым болей сёння апекавацца дзяржава), наколькі гэта магчыма, пастараўся абысці бокам палітычныя рыфы. Прадметам гутаркі з кіраўніком Беларускага фонду Сораса Пітэрам Бернам сталі абсягі тых задач, якія вырашае арганізацыя ў нашай краіне.***



**— Спадар Пітэр, пытанне, што называецца, у лоб. Пытанне, якое хацелася б спраецыраваць на ўсю нашу гутарку. Якім чынам Беларускі фонд Сораса вызначае прыярытэты ў падтрымцы менавіта тых альбо іншых праграм, праектаў? Што для вас з'яўляецца аргументамі ў прыняцці рашэння па фінансаванню?**

— Звычайна на пачатку кожнага трансавага года, улічваючы суму, выдзеленую на Беларусь, Назіральны савет БФС і вызначае прыярытэты. Механізм фінансавання самых розных праектаў Фондам Сораса ўшчыльную звязаны з сітуацыямі і пераменамі ў краіне...

**— Прабачце, але ж якія аргументы, пазіцыя якога руху ці якой партыі бяруцца ў разлік?**

— Ні руху і ні партыі... А пазіцыя Фонду Сораса. Ацэнка сітуацыі ў краіне даецца з пункту гледжання ідэі адкрытага грамадства... У БФС ёсць каардынатары, якія прадстаўляюць свае праекты праграм Назіральнаму савету. А той (заўважце, уваходзяць у нашу, скажам так, вышэйшую раду вашы ж суайчыннікі, даволі аўтарытэтныя ў грамадстве, у інтэлігенцкім асяродку людзі) прымае рашэнне выдзеліць грошы, зацвердзіць конкурс, прыняць канцэпцыю, праграму альбо не. Звычайна гэта вельмі доўгі працэс. Гадзінамі доўжыцца абмеркаванне.

Але і пасля прыняцця праграмы дзейнасці кожны з членаў Назіральнага савета, угледзеўшы ў грамадстве новую тэндэнцыю, новы накірунак, параіўшыся з каардынатарам, можа ўнесці свае прапановы. Словам, лічу, што мы маем даволі гібкую сістэму.

**— Ці можна колькі слоў пра тое, чаму, якім сферам вы аддаеце перавагу, праектуючы матэрыяльную падтрымку?**

— Прыярытэты і нашага, і іншых фондаў навідавоку. Навука і адукацыя — вось куды ідуць сродкі, якія філантроп Джордж Сорас выдзяляе на дабрачыннасць. Стараемся арыентавацца на моладзь. Зразумейце, мы ж не можам цалкам прафінансаваць тую ці іншую галіну. Няхай сабе і даволі вузкую. А вось падтрымаць пэўны праект, падштурхнуць іншых да працы, дапамагчы вучоным заявіць пра сябе...

Існуюць два блокі праграм. Першы — нацыянальная праграма, якая фінансуецца з сорасаўскага нацыянальнага бюджэту.

**— Дарэчы, чаму роўны сёлетні ўклад у гэтую праграму для Беларусі?**

— Недзе каля паўтара мільёна долараў ЗША. Існуе і блок рэгіянальных праграм. Яны былі распрацаваны даўным-даўно, з самага пачатку дзейнасці Фонду Сораса. Скажам так, гэта агульныя праграмы. Яны працуюць, фінансуюцца ў самых розных краінах.

**— Відавочна, гэтыя праграмы датычацца найперш грамадскага, сацыяльна-эканамічнага развіцця...**

— Так. Але, прыслухоўваючыся да парад нашага кіраўніцтва, нашых уласных экспертаў, мы вельмі ўважліва ставімся да ўласна беларускай сітуацыі. Часам робім выснову: тая ці іншая праграма, прыгодная для Венгрыі, на Беларусі не пойдзе. Шукаем нешта выключнае для вашай краіны. Шукаем у яе межах, спадзеючыся, што вынайдзены намі тут праект з часам таксама стане рэгіянальнай праграмай.

**— Давайце вернемся ўсё ж канкрэтна да навукі, адукацыі... Працуючы на іх падтрымку, вы, пэўна, фарміруеце больш-менш дакладнае ўяўленне пра будучыню нашай краіны. І хаця прагноз, якімі б аўтарытэтамі ён ні падмацоўваўся, усё ж справа няўдзячная, хацелася б ведаць ваша ўласнае меркаванне пра беларускае заўтра.**

— Некаторыя праграмы БФС (асабліва ў сістэме адукацыі) з'яўляюцца даволі працяглымі, разлічанымі на далёкую перспектыву. Гэта, думаю, пра нешта гаворыць. Фонд працуе тут у суладдзі з педагогамі, нават з чыноўнікамі. Заўважце, і гэта вельмі важна — мы не ствараем адкрытае грамадства на тэрыторыі вашай краіны, мы хіба што толькі імкнёмся дапамагчы, дапамагаем вам у гэтым. Трэба, каб вы самі вызначалі, што ж рабіць дзеля будучыні, дзеля заўтра. Наша праца — гэта хутчэй рэкамендацыі, свайго роду спроба вынесці аб'ектыўнае меркаванне, тактоўная просьба, парада прыслухацца да яго.

Між іншым, той жа Назіральны савет БФС — гэта ваш выбар. Там жа — вашы суайчыннікі. Хіба няма дастатковага жыццёвага, грамадскага вопыту ў Рыгора Барадуліна, Аляксандра Саснова, іншых экспертаў, якія вызначаюцца дасведчанасцю, і, паверце мне, чуццём у самых розных галінах дзейнасці?.. Ды і ў самім апараце БФС у пераважнай большасці працуюць вашы людзі, вашы грамадзяне.

**— І ўсё ж такі ваш уласны прагноз...**

— Тут я, на вялікі жаль, песіміст. Наколькі мне знаёма сёння Беларусь, перакананы, што сітуацыя ў навуцы, адукацыі пагоршыцца. Праблем стане больш. І мы стараемся, скажу прама, улічыць гэтую акалічнасць.

**— Якім жа чынам?**

— Не варта «бамбіць» дзесяткі мільёнаў долараў. Хаця б на электронныя сродкі інфармацыі. Існуе ж манаполія, не хапае для нармальнага развіцця заканадаўчай базы. Былі б свабоднымі газеты, тэлебачанне — мы падтрымалі б іх вельмі і вельмі істотна. Улічваючы гэта, стараемся дапамагчы асобнаму чалавеку, чалавеку не ў межах дзяржавы, а паза яе прасторай, па-за яе дыктатам.

**— Спадар Пітэр, вось вы выдаяце гранты пад напісанне адных падручнікаў, напрыклад, а ўсе школы працуюць з іншай літаратурай. Дык для каго ж працуюць шчасліўцы, падтрыманыя вамі? Ці не дарэмная гэта праца?**

— І сапраўды, такая сітуацыя нагадвае закопванне грошай у пясок. Так, былі і грошы, якія пайшлі ў пясок. Гара грошай. Таму з-за гэтага, калі размова ідзе пра велізарныя затраты, шырокамаштабныя акцыі, то мы працуем, вымушаны працаваць з дзяржавай, з ведамаснымі арганізацыямі. Але заўважце, што марнатраўства адбывалася часта не па віне Фонда Сораса, а было выклікана сітуацыяй, якая склалася на беларусі. Часта даводзілася працаваць без узаемадзеяння з урадавымі структурамі.

**— Ведучы размову пра прынцыпы работы Беларускага фонду Сораса, мы ўсяляк стараліся абысці пытанні палітыкі. І ўсё ж...**

— Фонд — і гэта мы заяўлялі неаднойчы — не займаецца палітыкай. Але мы не зможам адмовіцца ад пэўных прынцыпаў, якія зацверджаны не год і не два назад. Свабода слова, правы чалавека, свабоднае распаўсюджванне інфармацыі — вось што нас хвалюе, вось за што мы будзем змагацца. У гэтым — наша палітыка.

**— Дзякуй, спадар Пітэр, за інтэрв'ю. Спадзяёмся, што ваша дзейнасць будзе толькі на карысць нашай краіне.**

— Гэта залежыць і ад узаемаразумення з уладамі, з чыноўнікам, з урадам. Думаю, што лішнія непаразуменні нікому не на карысць. Вельмі хацелася б, каб іх, непаразуменняў, разыходжанняў, было як мага меней. А калі яны ўсё ж здараюцца, то да ісціны давайце ісці разумна, цывілізавана.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ХТО ДАПАМОЖА КАМБАЙНЕРУ ПРЫ ТРАЎМЕ

Тэма вытворчага траўматызму ў аграпрамысловым комплексе, напэўна, такая ж старая, як і ён сам. На жаль, ні адзін год не абыходзіцца без таго, каб недзе ў гаспадарцы падчас работ не атрымалі траўмы людзі, не была сапсавана-знішчана тэхніка.

Сённяшняе ж эканамічнае бязладдзе абвастрыла адну і без таго балючую праблему, аб якой падчас шматлікіх размоў і сустрэч у Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання нене ды і прыгадвалі кіруючыя работнікі, — праблему медыцынскага абслугоўвання працаўнікоў вёскі, асабліва на пасяўных і ўборачных работах.

Напрыклад, у мінулым годзе ў цэлым па краіне падчас уборкі збожжавых культур у гаспадарках адбылося 47 няшчасных выпадкаў; з якіх 30 цяжкіх і 17 — са смяротным зыходам (цяжкія цялесныя пашкоджанні ў тым ліку атрымалі чатыры непаўналетнія і адна жанчына). З агульнай колькасці пацярпеўшых 16 чалавек атрымалі траўмы пры пуску рухавіка трактара з-за няспраўнага блакіровачнага прыстасавання, 11 чалавек — па прычыне захопу вопраткі, рук і ног пры абслугоўванні машын і агрэгатаў, якія не былі спынены. Двух камбайнераў і памочніка забіла токам, дзве траўмы (адна — са смяротным зыходам) былі атрыманы на зернятоках. У мінулым годзе ў полі ў неўстаноўленых месцах адпачынку (у скірдах саломы і г. д.) тром чалавекам былі нанесены цяжкія пашкоджанні і аднаму — смяротныя. Ужо ў ліпені бягучага года ў калгасах і саўгасах на ўборцы збожжавых адбыліся 4 няшчасныя выпадкі са смяротным зыходам і 6 цяжкіх.

Зразумела, у такіх сітуацыях людзям патрэбна медыцынская дапамога і ўласна лекі — у першую чаргу. Але становішча пагаршае тое, што бяда нярэдка здараецца далёка ў полі, за многа кіламетраў ад населенага пункта. Калі разважаць цвяроза, дык аптэчкі павінны быць у самім механізатараў, камбайнераў. Але ўлічваючы, што іх камплектацыя і наогул наяўнасць цалкам ляжыць на плячах збяднелых гаспадарак — ці шмат там можа быць лекаў? Загадам Міністэрства аховы здароўя № 99 ад 13 чэрвеня бягучага года «Аб рэспубліканскім пераліку жыццёва неабходных медыкаментозных сродкаў» у лячэбных установах (у тым ліку і на вёсцы) наяўнасць (грошы, на ўсё патрэбны грошы!) гэтых прэпаратаў і сродкаў абмежавана. Дадаўшы сюды звесткі, што ФАПы забяспечваюцца за кошт невялікіх бюджэтаў сельскіх Саветаў, ці будуць яшчэ ў каго пытанні наконт наяўнасці лекаў пад рукой у механізатараў у выпадку траўмы?

Як высветліў карэспандэнт «Звязды» ў Міністэрстве аховы здароўя і ўпраўленні аховы здароўя Мінскага аблвыканкома, ніякіх сродкаў на гэтыя мэты за апошні час ніхто не даваў...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# АЎТАМАБІЛЬ ІНВАЛІДУ НЕ ПА КІШЭНІ

**Аўтамабіль для інвалідаў не раскоша, а сродак перамяшчэння. У бытнасць Саюза іх забяспечвалі «Запарожцамі». На тэрыторыі Беларусі штогод размяркоўвалася прыкладна 2000 аўтамабіляў. Цяперашняе становішча спраў у эканоміцы ўнесла свае карэктывы і ў гэтую лічбу.**

Вобласці і горад Мінск купляюць аўтамабілі для інвалідаў выключна за кошт сваіх сродкаў. У 1993 годзе яны яшчэ змаглі набыць 2029 машын. У 1994 толькі 1310, а ў 1995 і наогул 441 аўтамабіль, праўда, за кошт рэспубліканскага бюджэту да 50-годдзя Дня Перамогі было куплена яшчэ 160 машын.

Менш за ўсё аптымізму прынёс сёлетні год. Толькі Брэсцкая і Магілёўская вобласці змаглі купіць 45 «Таўрый» (больш звыклыя інвалідам «Запарожцы» ўжо не выпускаюцца). Пералічыла грошы Гродзенская вобласць. Зрабі яна гэта раней — купіла б аўтамабілі па старой цане, г. зн. па 50—52 млн. рублёў. Цяпер вырас курс долара і з 5 ліпеня з 3789 да 4300 долараў павялічана заводам адпускная цана 27-й мадэлі і з 3914 да 4460 долараў — 28-й.

Выпрацоўваюць усе свае рэсурсы выдадзеныя некалі машыны. Калі яны адкатваюць устаноўлены тэрмін (для «Запарожца» гэта 7 гадоў, для «Таўрыі» — 10) і калі рамантаваць іх становіцца нявыгадна, каб атрымаць грашовую кампенсацыю за транспартнае абслугоўванне і мець магчымасць атрымаць новы аўтамабіль, стары інваліды здаюць, папаўняючы і без таго доўгі спіс чаргавікоў. Цяпер у ім 7230 чалавек, з якіх 1340 — інваліды Вялікай Айчыннай вайны і прыроўненыя да іх. Яны ўсё гучней пачынаюць нагадваць пра сябе. Але, на жаль... Вырашэнне яшчэ адной праблемы сацыяльнай абароны насельніцтва ўпіраецца ў дзіравы бюджэт.

**Юрый КАЗАЧЭНКА.**

## Куфаль піва ў спякоту: асалода ці пагроза?

**Відаць, нямнога знойдзецца такіх людзей, якім ні разу ў жыцці не даводзілася ў спёку працягваць руку за куфлем піва ці квасу. Таму ўсіх пакупнікоў умоўна можна падзяліць на дзве групы: на пакупнікоў, якім усё роўна, што яны п'юць і ў якіх умовах іх абслугоўваюць, і людзей, якія, перамагаючы сваю гідлівасць, імкнуцца наталіць смагу. Ва ўсякім разе, ні тыя, ні другія ніколі не зазіраюць унутр кіёскаў, а «маюць зносіны» пераважна з рукамі прадаўца. Затое за іх зрабіць гэта паспрабавалі работнікі аддзела гігіены харчавання Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі (МГЦГЭ).**

Сумесная з АП «Крыніца» і ААТ «Аліварыя» праверка мінскіх прадпрыемстваў дробнарознічнага гандлю па рэалізацыі піва і квасу паказала, што ў большасці з іх парушаліся правілы ўтрымання кіёскаў, умовы і тэрміны рэалізацыі напояў. Тое, што недаступна воку радавога пакупніка, паўстала перад работнікамі санэпідслужбы, як гаворыцца, ва ўсёй сваёй красе: так, у шэрагу пунктаў няякасна апрацоўваліся цыстэрны пасля апаражнення, а ў некаторых кіёсках ёмістасці тыпу «прахалода» наогул не прамываліся перад чарговым запаўненнем свежым напоем, аб чым сведчыла пена на сценках з папярэдняга разу, шпрыцы для мыцця бакалаў былі пакрыты сліззю. Нярэдкай з'явай было незахаванне прадаўцом асабістай гігіены, работа без спецадзення, адсутнасць у гандлёвай кропцы ўмывальніка для мыцця рук, а таксама мыйных і дэзінфіцыруючых сродкаў. І, як вынік усяго гэтага, прысутнасць у змывах з ёмістасцей мікробаў групы кішэчнай палачкі, наяўнасць якіх паказалі даследаванні выбарачна зробленых проб піва і квасу (у прыватнасці, у кіёсках ад магазінаў №№ 28, 15, 36, 29 «Максіма», «Белсервіс», «Тамара», «Свіслач», «Падарожнік», «Дар'яна», «Зручны», універсама «Рыга».

Лабараторныя даследаванні піва і квасу на разбаўленне таксама не дадалі аптымізму: у большасці кропак наіўны пакупнік глытаў разбаўлены вадой напой. А абсалютным чэмпіёнам па разбаўленню стаў кіёск ад магазіна № 5 ТПФ «Зарына», дзе прадавец умудрыўся рэалізаваць разбаўлены ў 2,5 раза квас.

Па выніках праверкі было забракавана 270 літраў недабраякаснага хлебнага квасу, прыпынена эксплуатацыя 8 кіёскаў, адзін прадавец звольнены і 25 адказных асоб аштрафаваны за выяўленыя парушэнні.

Цяпер санэпідслужбай прапрацоўваецца пытанне адпускання піва і квасу ў посуд выключна аднаразовага карыстання, а таксама рэалізацыі гэтых напояў з герметычных ёмістасцей тыпу «кегі», якія будуць запаўняцца ў заводскіх умовах.

Гэтая мера, як плануецца, выключыць магчымасць разбаўлення напояў і зменшыць забруджванне рэалізуемай прадукцыі.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



## Дорыць здароўе «Лясная паляна»

Статыстыка сведчыць: больш за паўмільёна дзяцей Беларусі маюць патрэбу ў аздараўленні. З іх толькі пятая частка штогод атрымлівае такую медыцынскую дапамогу.

Добра арганізаваны адпачынак дзятвы ў рэабілітацыйным аздараўленчым цэнтры «Лясная паляна», які сёлета ўступіў у строй у Смаргонскім раёне. 160 хлапчукоў і дзяўчынак з розных раёнаў адпачываюць тут пад наглядам медыкаў і педагогаў. Для іх тут дзейнічаюць гурткі, ёсць добрая бібліятэка, спартыўная зала, басейн. Значную дапамогу аказвае лагеру персанал мясцовай Жодзішскай участковай бальніцы. Фірма «Ніва» Смаргонскага завода аптычнага машынабудавання пастаўляе высакаякасныя харчовыя прадукты.





**НА ЗДЫМКАХ: на маляўнічай лясной паляне размясціўся рэабілітацыйны аздараўленчы цэнтр; Юрыку Ломацю пашанцавала — грыб на дзіва вялікі; гэты маленькі трактар аддадзены ў распараджэнне аматараў тэхнікі.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

*КРЫМІНАЛ*

### Ветлівы падарожнік аказаўся гвалтаўніком

40-гадовая жанчына адной з вёсак Асіповіцкага раёна пайшла шукаць сваю дачку, якая прадавала грыбы на трасе і доўга не вярталася дамоў. Па шляху ёй сустрэўся пажылы мужчына, які завёў з ёю размову і пацікавіўся, куды яна ідзе ў такі позні час. Даведаўшыся ў чым справа, прапанаваў сваю дапамогу ў пошуках. Але, прайшоўшы крыху па чыгуначнаму палатну, выпадкова сустрэты падарожнік раптам накінуўся на жанчыну. Не ўстаяўшы на нагах, яны скаціліся пад адхон. Калі на шыі жанчыны самкнуліся пальцы «падарожніка», яна зразумела, што сустрэлася з гвалтаўніком. Бачачы, што той жартаваць не збіраецца, прапанавала заняцца «каханнем» добраахвотна. Незнаёмцу такая прапанова спадабалася і ён, пакінуўшы ахвяру ў спакоі, зняў пінжак, разаслаў яго і ўлёгся ў чаканні. У гэты момант жанчына намацала ў кішэні пінжака нож і, выхапіўшы яго, нанесла гвалтаўніку ўдар у шыю. Той, не чакаючы такога павароту падзей, з пагрозамі кінуўся да жанчыны, але быў спынены другім ударам у жывот. Пасля гэтага і гвалтаўнік і ахвяра кінуліся ўцякаць у розныя бакі. Дома жанчына пазваніла ў міліцыю, і на месца здарэння выехала аператыўная група. У 70 метрах ад месца сутычкі знайшлі труп мужчыны. Было ўстаноўлена, што гэта раней судзімы за згвалтаванне жыхар суседняй вёскі.

**Віктар КУПРЭЕЎ,**
**прэс-група УУС Магілёва.**

### Нажом — па «мяккаму месцу»

Пытанне «Ці аб усіх крыўдах можна гаварыць ўслых?» вельмі асабістае. Напрыклад, пенсіянеру з Віцебска спатрэбілася цэлых пяць дзён, каб падзяліцца сваім горам з супрацоўнікамі транспартнай міліцыі гэтага абласнога цэнтра. Ён паведаміў, што яшчэ 20 ліпеня ў дызель-цягніку «Віцебск—Орша» яго знаёмая, беспрацоўная грамадзянка З., 1948 г. нараджэння, знаходзячыся ў нецвярозым стане, нанесла старому нажавое раненне ў вобласць ягадзіц.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

### Заблудзіўся камп'ютэр у лесе

Калі б не аператыўныя дзеянні і высокі прафесіяналізм супрацоўнікаў Лельчыцкага райаддзела ўнутраных спраў В. Вагі, С. Сітніка і В. Зіновіча, мог бы ўзнікнуць міжнародны скандал.

Па лініі ЮНЕСКА спецыялісты геафізічнага навукова-даследчага цэнтра з нямецкага горада Патсдама сачылі ў раёне за сейсмічнымі ваганнямі шчыльных слаёў Зямлі, для чаго ў лесе каля вёскі Сінполе ўстанавілі дарагую сучасную (у 40 тысяч марак) апаратуры — камп'ютэр, сейсмаздымнік, дыскавую памяць, батарэю сілкавання і да т. п. Прыйшлі правяраць паказанні — а апаратуры той і след прастыў.

Міліцыянеры знайшлі зладзеяў хутка. Імі аказаліся двое мясцовых хлопцаў, якія, праявіўшы «навуковую» цікаўнасць да іншаземнай тэхнікі, вырашылі, што месца ёй не ў лесе, а ў іхніх дамах.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

### Наркотыкі «блукаюць»...

Як паведамілі ў прэс-групе УУС на транспарце, пры правядзенні аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў на чыгуначнай станцыі «Мачулішчы» супрацоўнікамі транспартнай міліцыі былі затрыманы трое беспрацоўных мінчан, у якіх было знойдзена і канфіскавана 1 кг 158 г макавых галовак.

А супрацоўнікамі Гомельскага АУС на транспарце на чыгуначным перагоне «Лазурная—Светач» былі затрыманы яшчэ чацвёра маладых людзей, беспрацоўных жыхароў пасёлка Бальшавік Гомельскага раёна. Улоў міліцыі на гэты раз склалі 270 грамаў пакрышанай макавай саломкі, шпрыц, тры бутэлькі растваральніку і посуд для прыгатавання «пякельнага зелля».

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



## Рэпарцёр атрымаў заданне...

## ...ПЕРАНАЧАВАЦЬ У РАЁННАЙ ГАСЦІНІЦЫ

Кожны раз, калі даводзіцца выпісваць камандзіровачнае пасведчанне ў які-небудзь раён, паверце, рабіць гэта не вельмі хочацца. І ведаеце, чаму? Перш-неперш з-за таго, што давядзецца спыніцца ў раённай гасцініцы, каб на ноч-другую атрымаць прытулак. Што, спытаеце, так вельмі цяжка, амаль немагчыма ў ёй размясціцца і там традыцыйна няма свабодных месцаў? Не.

У любой мясцовай гасцініцы, у любы час сутак вас на парозе, што называецца, сустрэнуць як доўгачаканага госця з абдымкамі. Без лішніх слоў адразу прапануюць на выбар асобны нумар ці месца ў іншым пакоі і тут жа паселяць.

Праўда, у адной з гасцініц Магілёўскай вобласці перш чым падаць для запаўнення анкетную картку, дзяжурны адміністратар агрэла мяне пытаннем: «А вы на цэны паглядзелі?» Я адно пацiснуў плячамі: маўляў, прычым тут цэны, калі трэба пераначаваць. Але ўсё ж зірнуў у прэйскурант. Шчыра скажу, ад убачаных у ім лічбаў ажно дух заняло. Толькі куды было падзецца: калі няма больш ніякага прытулку, то выкладзеш любую суму.

Падчас нядаўняй камандзіроўкі на Віцебшчыну таксама давялося спыніцца ў раённай гасцініцы. Атрымліваю ў дзяжурнай ключ, у неасветленым, цёмным калідоры знаходжу прапанаваны пакой, але зайсці ў яго не магу: дзверы ніяк не адчыняюцца. Пэўна, хвілін з дваццаць корпаўся — і ўсё дарэмна, хоць крыкам крычы. І толькі з дапамогай запалак, якія дарэчы аказаліся ў кішэні, удалося высветліць, што замок устаўлены «дагары нагамі».

Нарэшце з палёгкай пераступіў парог і акінуў позіркам «свае апартаменты». Ад убачанага ахапіла не тое што абурэнне, а нейкая збянтэжанасць і разгубленасць. Міжволі падумалася: «Вось дык камфорт! І за што тут плаціць звыш трыццаці тысяч у суткі?» Люстру са столі нехта зняў і на месца не прыкруціў. Умывальніка няма. Замест радыёдынаміка звісаюць абарваныя правады. Памкнуўся павесіць ў дапатопную шафу плашч, а там аніводнай просценькай вешалачкі. Ні настольнай лямпы, ні шчоткі, ні нават карзінкі-сметніцы. І толькі на стале з патрэскана-ўздыбленай палітурай, быццам на ім нехта адбіваў чачотку, важна стаялі дзве шклянкі і брудны пусты графін. Мы, журналісты, народ цярплівы, прывыклі да ўсялякага побыту ў камандзіроўках. Аднак з дарогі заўсёды хочацца ўмыцца, хоць рукі спаласнуць, а тут ручніка і таго не было. (Потым дзяжурная адказала, што ручнікі абяцалі прывезці толькі заўтра.)

Мне даводзілася жыць у розных гасцініцах, даволі часта ў раённых і менавіта ў гэтай, аб якой ідзе размова. Не хачу сказаць, што раней яны вызначаліся нейкім «шыкамбляскам». Не, недахопаў таксама хапала. Але ўсё ж самы элементарны рыштунак для менш-больш нармальнага жыцця чалавека ў іх быў. Не кажу ўжо пра радыёкропкі, але ў многіх нумарах стаялі тэлевізары, халадзільнікі, тэлефоны. Амаль ва ўсіх гэтых установах працавалі сякія-такія буфеты. У дзяжурнага адміністратара можна было ўзяць прас, кнігу з небагатай бібліятэчкі, калі не захапіў ніякай з сабой, купіць свежы нумар газеты, часопіса. Прытым і цэны на ўсе паслугі былі памяркоўныя, даступныя.

Відаць, таму тады і былі перапоўнены гасцініцы. А цяпер яны практычна пустуюць. І мне думаецца: людзей ад іх адпугнулі не толькі высокі кошт месцаў, але і вельмі нізкі ўзровень абслугоўвання, той нікчэмны сервіс, які назіраецца ў гэтых ўстановах. І ўтварылася замкнутае кола беднасці: мала кліентаў — мізэрная выручка, а востры дэфіцыт сродкаў — няма за што набыць неабходныя рэчы, інвентар.

Вось, сустрэўшыся з дырэктарам вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі (ён прасіў не называць яго прозвішча), хацелася павесці гаворку аб цяжкасцях і праблемах раённай гасцініцы, пра яе далейшы лёс, нарэшце, што трэба зрабіць, каб вывесці яе з крызіснага становішча. На жаль, кіраўнік сказаў, маўляў, а што аб гэтай беднасці гаварыць, мы залезлі ў даўгі на 1,5 мільярда рублёў, нам ніяк не могуць вярнуць яшчэ большую суму. Адным словам, які сэнс пераліваць з пустога ў парожняе, і ад прапанаванай размовы наадрэз адмовіўся.

А дарэмна: маўчаннем справу не паправіш.

**Іван БРАЛКА.**

## ...ПАШЫЦЬ ЧАРАВІКІ

Мне даўно хацелася набыць такія туфлі, якія сяброўка прывезла з Іспаніі. І нічога ў іх асаблівага, не было. Але ладны, модны, стыльны абутак. Без «наваротаў» і бліскучых бляшак. Адным словам, проста якасны. Зрабіўшы неверагодную колькасць стамляльных ваяжоў па гандлёвых кропках і рынках, я страціла надзею знайсці не толькі хаця б бледнае падабенства жадаемага, але ўвогуле штонебудзь прыстойнае за тыя сродкі, якімі валодала.

Па меры таго, як раставала мая мара, усё больш замацоўвалася думка, што прыйшоў час звяртацца ў атэлье, дзе шыюць як ботыскараходы, так і амаль што хрустальныя туфелькі.

«Села» на тэлефон, каб даведацца, дзе і за якія сродкі мне дапамогуць ажыццявіць мару. Не паўтарайце маю памылку: не звяртайцеся да даведніка «Увесь Мінск». Усе тэлефонныя нумары атэлье пашыву абутку, дадзеныя ў ім, даўно памяняліся. Пасля паўгадзіны тэлефанавання высветлілася, што прапанаваць свае паслугі могуць усяго тры атэлье. Астатнія ж не працуюць па тым ці іншых прычынах: у адным рабочыя ў водпуску да 12 жніўня, у другім — рамонт, у трэцім — абутак на заказ не шыюць.

Нарэшце, я накiравалася па адрасу, дзе на мае пытанні адказалі станоўча. Аднак, што з матэрыялаў кліента нічога не пашыюць, я ўжо ведала. Чаму, не растлумачылі. Абутак з верхам з тканіны таксама ў атэлье не закажаш — гэта тлумачыцца адсутнасцю ў айчынных майстэрнях неабходнага абсталявання. Заказ кліента выканаюць за месяц і толькі з уласных матэрыялаў. Пазней я ўбачыла, што гэта за матэрыялы. Я, вядома ж, не каралева, і чаравікі з залатымі спражкамі мне не патрэбны, але ў тых туфлях ні я, ні большасць жанчын хадзіць не захоча. Пакуль была ў атэлье, бачыла, што наведвальніцы цікавіліся толькі гатовымі ботамі, бо іх якраз купіць можна. Мадэлі, зразумела, не супер, але даволі камфортныя, з натуральнай скуры: зімовыя боты за 675—705 тысяч рублёў можна набыць. Калі без фурнітуры (шнуркоў, заклёпак, спражак), то яшчэ на 30 тысяч будуць таннейшыя. А вось з прапанаванага асартыменту складана штосьці выбраць. На жаль, басаножкі за 180—250 тысяч рублёў і туфлі за 280—300 тысяч выглядаюць так, быццам бы за аснову ўзяты старажытны абутак — лапаць. Выстаўку такога абутку можна было б так і назваць — «Эвалюцыя лапця». Няхай прабачаць мне майстры, але насіць такія «чаравічкі» пажадаюць не многія. Тым больш, што за гэтыя ж грошы ў магазіне можна купіць куды спрытнейшыя туфлі.

Каб сумленне маё нішто не мучыла, звярнулася ў Дом мадэляў абутку. Рэспубліканскі. Магчыма, хоць там мне дапамогуць. Дапамаглі б, калі б я хацела абуць творчы калектыў, напрыклад. Ад асобных кліентаў заказы не прымаюцца. Прапануюць набываць гатовыя мадэлі. Трэба неяк зазірнуць. А раптам там мяне мая мара чакае?

**Жанна КАТЛЯРОВА.**




# Паспрабуйце адрамантаваць глушыцель «Жыгулёў» самастойна

**Прасцей за ўсё, вядома, купіць і паставіць новы глушыцель. Але ж цэны на іх вельмі «куслівыя. І яшчэ: калі вы купляеце яго на рынку ці ў кіёску, невядома з чаго і як ён выраблены. Калі трохі прыкласці рукі, то можна паспрабаваць зрабіць рамонт самому.**

Уся праца зводзіцца, як правіла, да разборкі глушыцеля, выдалення згарэлыых дэталяў, вырабу новых і зборкі. Корпус асноўнага глушыцеля састаўлены з дзвюх палавін, звараных па фланцах. Разлучыць іх па зварцы немагчыма.

Вось найбольш рацыянальная паслядоўнасць аперацый разборкі і зборкі.

Спачатку глушыцель трэба разрэзаць звычайнай нажоўкай па металу на тры часткі *(мал. 1)*. Лініі разрэзаў размяшчаем на 10—15 мм у напрамку да сярэдзіны корпуса ад першых праштамповак на ім, там, дзе пачынаецца пастаяннае папярочнае сячэнне дэталяў. Пасля разразання глушыцеля на часткі *(мал. 2)* чысцім іх і ліквідуем рэшткі згарэлых перагародак.

Калі моцна пашкоджаны патрубак, якім глушыцель мацуецца да кузава, выкідваем яго, абрэзаўшы па зварцы. Рэшткі зварачнага шва спілоўваем (ці ссякаем), каб можна было выцягнуць астатак патрубка з глушыцеля. Замест пашкоджанага сюды ўварваюць новы патрубак з кавалка трубы прыдатнага дыяметра.

З унутраных дэталяў толькі перагародкі глушыцеля зроблены з нізкавугляродзістай сталі, і звычайна іх разбурэнне ад карозіі і вызначае рэсурс усяго глушыцеля. Каб у будучым не вяртацца да гэтай работы, перагародкі лепш зроблены з нержавеючай сталі, зменшыўшы іх колькасць з чатырох да дзвюх. Ліквідацыя дзвюх крайніх перагародак абумоўлена магчымасцямі зборкі глушыцеля пры такой тэхналогіі рамонту. На акустычных якасцях такая пераробка не адбіваецца.

Каб вызначыць неабходную велічыню перагародак, трэба зрабіць выкрайку непасрэдна з папярочнага сячэння распілаванага корпуса. Цэнтры дзірак у перагародках пад перфарыраваныя трубы размяшчаем на 50 мм ніжэй самай верхняй кропкі. Сярэднюю дзірку робяць дакладна па вертыкальнай восі, а цэнтры бакавых змяшчаюць на 51 мм адпаведна ўправа і ўлева. Дыяметры дзірак выбіраюць па памерах патрубкаў, якія будуць устаўляцца у іх.

Зборку глушыцеля пачынаюць з таго, што злучаюць у блок абедзве перагародкі, сярэднюю перфарыраваную трубу і ўпускную трубу з пярэдняй часткай корпуса. Для гэтага перамычку паміж адтулінай пад упускную трубу і знешнім краем адной пярэдняй перагародкі прыйдзецца разрэзаць, як паказана на *мал. 3*. Пасля зборкі блока ўсе дэталі яго злучаюць электразваркай, устаўляюць увесь блок у сярэднюю частку корпуса і прыварваюць заднюю перагародку і абедзве злучаемыя часткі корпуса па перыметру.

Наступная зборачная аперацыя — уставіць у адтуліны перагародак перфарыраваную трубу выпускнога патрубка з задняй часткай корпуса і зварыць яго па перыметру *(мал. 4)*. Адтуліна ў задняй перагародцы для гэтай трубы павінна быць большай за астатнія, бо як праз яе пройдзе перфарыраваная частка трубы. Канкрэтны памер яе выбіраем на месцы.

Кажух глушыцеля і асбеставыя пракладкі, калі яны добра захаваліся, можна пакінуць старыя. Калі не — прыйдзецца рабіць новыя.




**Мал. 1. Разрэзка корпуса глушыцеля: 1 — задняя частка корпуса; 2 — лініі разрэзу; 3 — сярэдняя частка корпуса; 4 — пярэдняя частка корпуса.**

**Мал. 2. Разабраны глушыцель: 1 — задняя частка корпуса з выпускным патрубкам; 2 — сярэдняя частка корпуса; 3 — рэшткі згарэлых перагародак; 4 — пярэдняя частка корпуса з упускным клапанам.**

**Мал. 3. Зборка глушыцеля: 1 — сярэдняя частка корпуса; 2 — задняя перагародка; 3 — сярэдняя перфарыраваная труба; 4 — пярэдняя перагародка; 5 — пярэдняя частка корпуса з упускным патрубкам; 6 — зварачныя швы.**

**Мал. 4. Заключная аперацыя зборкі корпуса глушыцеля: 1 — задняя частка корпуса з выпускным патрубкам; 2 — зварачнае шво; 3 — сабраная частка корпуса; 4 — задняя перагародка.**

# ФІЛЬМАТЭКА

- **«Жалезная заслона»,**
- **«Вераломства славы»,**
- **«Дэльта Венеры»,**
- **«Гадзюка, альбо Кідок змяі»**

**Новую мастацкую кінастужку «ЖАЛЕЗНАЯ ЗАСЛОНА», створаную рэжысёрам Савам Кулішам па сваім сцэнарыі, прапануюць увазе гледачоў кінамайстры Расіі.**

Дзесяцігадовым хлопчыкам Косця Саўчанка ў 1947 годзе разам з бацькамі прыязджае ў Маскву. Тут, у камуналцы, на старой маскоўскай вуліцы Срэценцы, Косця расце, мужнее, жыццё навокал напоўнена падзеямі, часам страшнымі: працэсы над «ворагамі народа», смерць правадыра-тырана, амністыя зняволеным, выкрыццё культу асобы... Усё гэта як бы гістарычны фон, у які ўплецены дзесяцігадовы адрэзак жыцця Косці Саўчанкі. Мужчынская школа са злосным на выгляд дырэктарам, бойкі адзін на адзін і пяцёра на аднаго, гульні ў прысценачак, блатныя песні, сяброўства са злодзеем-рэцыдывістам, безбілетныя «пратыры» ў кінатэатр. А потым першы бальны танец на школьным вечары, першы пацалунак, першая жанчына...

У галоўных ролях выступаюць Саша Быкоўскі, Цімафей Фёдараў, Ала Казанская, Сяргей Зярноў, Вольга Чарнавок і інш.

**У Францыі знята мастацкая стужка «ВЕРАЛОМСТВА СЛАВЫ».**

Мішэль Блан — вядомы французскі рэжысёр і акцёр — тут выступае не толькі як аўтар сцэнарыя, пастаноўшчык і выканаўца галоўнай ролі. Ён стаў яшчэ і героем фільма, сыграўшы самога сябе, — паважанага кінематаграфіста Мішэля Блана, з якім злы жарт згуляла яго папулярнасць.

Ці мог уявіць Мішэль, чым для яго абернецца прыбыццё на Канскі фестываль, з якімі сюрпрызамі прыйдзецца сутыкнуцца! Чым не сюрпрыз, напрыклад, прад'яўлены яму рахунак за паездку ў таксі, і куды — да прастытутак! І гэта ў той час, калі ён цэлы дзень не выходзіў з дому. А што павінен быў падумаць паважаны мэтр, калі зусім невядомы яму чалавек панібрацкі напомніў яму аб тым, як яны разам нядаўна пабывалі ў «вельмі вясёлай установе»! А што ён павінен быў адчуць, калі яго проста выкінулі з начнога рэстарана, ды яшчэ паабяцалі «набіць морду» за нейкія свавольствы. Але апафеозам стаў начны візіт паліцыі ў яго кватэру...

Галоўных герояў іграюць Філіп Нуарэ, Жазіан Баласка, Мары-Ан, Шазель, Крысціян Клаўе, Кіём Дзюран, Шарлота Генсбург, Давід Халідэй.

**У ЗША створана мастацкая кінакарціна «ДЭЛЬТА ВЕНЕРЫ». Яе паставіў па матывах аднайменнага рамана Анаіса Ніна рэжысёр Залман Кінг.**

«Пісьменнік павінен дасканала вывучыць тое, аб чым збіраецца напісаць». Гэтай банальнай ісцінай можна было б вызначыць ідэю фільма. На гэты раз пісьменніцкі пошук вядзецца ў далікатнейшай галіне — у свеце пачуццяў.

Эротыка займае асноўнае месца ў апавяданнях маладой пісьменніцы Алены Марцін. Аднак яна не задаволена сваёй творчасцю, разумеючы, што яшчэ не зразумела сама і не змагла сказаць іншым нешта важнае. Для дэталёвага вывучэння «прадмета» яна ўвосень 1939 года прыязджае з ЗША ў Парыж.

У свеце ідзе вайна, нямецкія войскі ўварваліся ў Францыю. Заставацца ў Парыжы небяспечна, але Алена не хоча ехаць, пакуль не спасцігне тое галоўнае, дзеля чаго прыехала ў «сталіцу кахання». Яна чакае цуду, прасвятлення. І цуд прыйшоў у вобразе пісьменніка Ларэнса, чалавека тонкай душы... У фільме здымаліся Одзі Энглад, Костас Мэндзілор, Рэйвен Снод, Эрык Дасілва.

**І яшчэ адзін амерыканскі фільм змогуць паглядзець гледачы. Пастаноўку мастацкай кінакарціны «ГАДЗЮКА, альбо Кідок змяі» ажыццявіў рэжысёр Цібор Такач, сцэнарый напісаў Нейл Ратэнберг.**

Мянушкай «Гадзюка», якую мае экс-паліцэйскі Грэвіс Блэкстоўн, вызначаюцца баявыя якасці гэтага чалавека, яго ўменне быць бязлітасным і імклівым у схватцы з праціўнікам. Вядома, што праціўнікі — гэта тыя, хто стаіць па другі бок закону. Але зараз Трэвіс не столькі думае пра закон, колькі пра тое, як выручыць з бяды малодшага брата, над якім навісла перспектыва «правесці астатак жыцця ў турме».

У ролях — Ларэнца Ламас, Хэнк Чэйн, Кімберлі Кейтс, Джо Сан.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 8 жніўня

**Беларускае тэлебачанне**

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.50** Эканамікст.
**8.00** Навіны.
**8.15** «Вяскоўцы». Эксперыментальная база «Жодзіна».
**8.45** «Падзеі культурнага жыцця».
**9.05** «Пітэр Пэн». Маст. фільм. 1-я серыя.
**10.15** Каралеўскае паляванне.
**10.55** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага».
**11.50** «У гасцях у канцлера Коля». Відэафільм.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей.
**15.40** «Віні-Пух», «Віні-Пух ідзе ў госці», «Чаму сланы»?» Мультфільмы.
**16.35** «Сола для трубы». Дак фільм пра Эдзі Рознера.
**17.20** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.50** Музычны антракт.
**18.05** Галасы мінуўшчыны. «Пад гукі клавесіна...»
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага».
**20.05** «Оскар». Тэлегульня.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Хроніка жніва-96.
**22.10** «Набожная Марта». Маст. фільм (Расія). 2-я серыя.
**23.20** «Крок». Праграма для моладзі.
**23.50** «Канцэртны сезон». Сімфанічны аркестр Белтэлерадыёкампаніі.
**0.20** Навіны.

**ГРТ**

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.05** Навіны.
**8.15** «Новая ахвяра».
**9.05** «Парыжскія тайны Э. Разанава. «Успамінаючы Іва Мантана і Сімону Сіньёрэ...»
**9.45** Футбол. «Глазга Рэйнджэрс» (Шатландыя) — «Аланія» (Расія). 2-гі тайм.
**10.40** Смак.
**11.10** У эфіры Тэлерадыёкампанія «Мір». «Пад дахам свету».
**11.55** «Сакрэтны фарватэр». Серыял. 3-я серыя.
**13.05** «Капрызка». Мультфільм.
**13.25** Каханне з першага погляду.
**14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца».
**14.40** Лего-го!
**15.05** Цін-Тонік.
**15.35** «Элен і хлопцы».
**16.00** Рок-урок.
**16.30** «Вакол свету».
**17.20** «Новая ахвяра».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** Лота-Мільён.
**19.00** Цудоўныя гісторыі ў праграме «Мая сям'я».
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.35** Праграма перадач.
**20.40** Надзея Румянцава ў кінакамедыі «Каралева бензакалонкі.
**22.15** «Абоз».

**«Расія»**

**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 22.50** Весткі.
**7.20** «Чароўны школьны аўтобус». Мультсерыял.
**7.50** Час дзелавых людзей.
**8.00** Прасцей простага.
**8.30** Сам сабе рэжысёр.
**9.00** «Санта-Барбара».
**10.55** Тавары — поштай.
**10.20** «Санта-Барбара».
**16.20** Твар з вокладкі. А. Варум.
**16.35** Залежыць ад цябе.
**16.50** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў.
**17.15** Ваш партнёр. «Дамашні лекар».
**17.30** Клуб губернатараў.
**17.55** Нічога, акрамя...
**18.10** «Цёмная» для К. Баравога.
**18.25** Раз на тыдзень.
**19.35** «Санта-Барбара».
**20.30** Маскі-шоу.
**21.00** Надвор'е.
**21.05** «Пагоня». Маст. фільм (ЗША).
**22.40** Навінкі ад ТВ медыа.
**23.05** Музыка ўсіх пакаленняў.
**23.15** Адамаў яблык.

**Санкт-Пецярбург**

**11.55, 12.55, 13.55, 16.55, 18.55, 22.05** Інфарм ТБ.
**12.05** «Першае каханне». Серыял.
**13.10** Тэрмін адказу — сёння.
**13.40** Парады садаводам.
**14.05** Дэтэктыў. «Шпік» (Швецыя).
**15.05** «Інспектар ДАІ». Маст. фільм (Расія).
**16.20** «Аранжавае горлачка». Мультфільм.
**16.40, 20.40** Тэлеслужба бяспекі.
**17.05** «Філасофія па Філу». Серыял для падлеткаў.
**17.25** «Цікаўнае сланяня». Мультсерыял.
**17.35** Стыль жыцця.
**17.40** Паказвае Ленінградская АТК.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.15** Спорт.
**19.20** «Першае каханне». Серыял.
**20.10** «Тэлекампакт». Музычнае шоу.
**20.55** Спартыўны агляд.
**21.05** Дэтэктыў. «Шпік» (Швецыя).
**22.25** «Трое ў лодцы, калі не лічыць сабакі». Маст. фільм. 1-я серыя.

**НТБ**

**18.00, 21.00, 23.00** Сёння.
**7.35** Маст. фільм «Разрываючы цішыню» (ЗША).
**9.10** Дак. фільм «Загадкі Бібліі».
**9.30** Маст. фільм «Апошняя граната» (Вялікабрытанія).
**11.00** Гадзіна серыяла. «Каханне блакітнае і ружовае». 2-я серыя.
**11.50** Маст. фільм «Гу-га».
**17.00** Дак. фільм «Дзікая прырода: барацьба за жыццё».
**17.30** Жаночыя гісторыі. Маст. фільм «Каханне і нянавісць».
**18.35** Дак. фільм «Імкненне да нябёсаў: гісторыя авіяцыі».
**19.00** Маст. фільм «Вялікая гульня» (ЗША).
**21.35** Гадзіна серыяла. «Каханне блакітнае і ружовае». 3-я серыя.
**22.30** Часінка.
**23.20** Кіно не для ўсіх. Маст. фільм «Правядзі мяне дадому» (Германія).

**Праграма МКТ**

Pro-7.
**10.50** Анонс.
**11.00** RTL-2. «Смейцеся на здароўе».
**11.30** Дэтэктыў «Кулінарная гісторыя».
**13.10** Еўраспорт.
**19.00** Анонс.
**19.10** М/ф «Вясёлыя бурундукі»-2.
**20.20** Маст. фільм «Д'ябал і Макс Дэўлен».
**21.55** Маст. фільм «Клубніцы і шакалад».
**23.45** VOX.





**Ад усёй душы віншуем нашага дарагога татачку і любага дзядулю Паўла Іванавіча ГАЎРЫЧЭНКАВА з 70-годдзем.**

***Вы родились на светлый праздник Спаса,***
***И яблок полон сад, и льётся мёд рекой,***
***Желаем долгих лет, здоровья, море счастья,***
***Спасибо Вам за всё и шлём поклон земной!***

**Сям'я Гаўрычэнкавых, Лук'янскіх і любыя ўнучкі дзядулі Таццяна, Машачка і Алена.**

Віншуем зяця і швагра **Сяргея СЯМІТОНА**, які пражывае ў в. Замасточча, з 30-годдзем. Жадаем табе моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту і заўжды заставацца такім, які ты ёсць, а яшчэ жадаем блакітнага неба над галавой і сонечнага настрою.

***Сям'я Лапкоўскіх.***

Віншуем з днём нараджэння **Аляксандра Васільевіча ПРАЧЫКА**. Жадаем здароўя, доўгіх шчаслівых гадоў жыцця і ўсяго найлепшага. Няхай любыя беды і няшчасці абыходзяць цябе.

***Маці, жонка і сын Саша. г. Жлобін.***

Сардэчна віншую з 80-годдзем **Фядору Кандрацьеўну ГВОЗДЗЬ**. Жадаю здароўя і ўсяго добрага ў жыцці.

***З павагай Толя Гвоздзеў.***

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852.
Індэкс 63850.
Зак. № 4361.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.